# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1971
Сакавік - Красавік

Год XIX
№ 2 (125)

ЗЬМЕСТ:

ВЯЛІКДЗЕНЬ — ХРЫСТОС УВАСКРОС! • НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ • МАЛІТВЫ ПРЫ СЬВЯТОЙ ЛІТУРГІІ 1695 Г. • ЖАНЧЫНЫ — НАСТАЎНІКАМІ ЦАРКВЫ • АПОСТАЛЬСКАМУ НУНЦЫЮ — PRO MEMORIA • БЕЛАРУСКАЕ БАГАЦЬЦЕ — КУЛЬТУРНЫЯ ЎПЛЫВЫ • З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ, З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ • З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ • НОЧ СТАРОГА 1970 і ПАД НОВЫ 1971 ГОД • ПРЫКАЗКІ, БЕЛАРУСКІЯ ЖАРТЫ • ПАШТОВАЯ СКЫНКА.

## ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIX** **March—April 1971** **№ 2 (125)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XIX — САКАВІК—КРАСАВІК — № 2 (125)

# Вялікдзень

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Як чалавек, памёр ХРЫСТОС:
Як БОГ, душу Ён перанёс
Аж да Айцоў, што там чакалі —
Яго-ж у радасьці спаткалі.

На трэці дзень ІСУС ХРЫСТОС
Аджыў — па сьмерці УВАСКРОС. —
І знайце, людзі,
Што паміраць Ён больш ня будзе!

Анёлы ў небе, як дазналі,
Дык «Аллелюя» засьпявалі:
Мільярды іх, а хор магутны
На край сусьвету скрозь быў чутны.

Міхал-Арханёл тон даваў,
А Габрыель дырыгаваў. —
Хор змоўк. Далей тымчасам
Майсей грымеў магутным басам.
Прарок Ісая з Ааронам
Цягнулі звонкім барытонам,
Прарокі меншыя — паўтонам...

Давід у нотах самых трудных
Іграў на гусьлях сямі-струнных,
Грымеў Ілля ў нябесных хорах —
Аж рэха йшло па долах-горах!

*

А тры жанкі прад сонца ўсходам
Ішлі да гробу «самаходам» —
Дый гаманілі-бедавалі:
«Вялізны камень хто адваліць
Ад гробу Госпада — Ісуса?»
А гэта спроба і спакуса
Ім надта дзёрска дакучала —
Аж бачуць: — Божа, што тут стала? —
Той камень нехта адвалок —
Далёка кінуў яго ў бок! —
А месца тое ўсё — пустое!...
— Дзе-ж цела Госпада-святое? —

Жанчыны добрыя ўсе тыя
Дрыжаць ад страху — ледзь жывыя.
У гроб зашлі і аж здрантвелі!

Бо там юнак сядзеў у белі:
Ён — сьветлы, ясны дый прыгожы,
Цудоўны, так як анёл Божы!

— Жанчыны, кажа, вы ня бойцесь —
Пабачце гроб дый супакойцесь!
Ня трэба плакаць у жалобе,
Ані шукаць Хрыста у гробе,
Бо Ён жывы: Ён з гробу ўстаў,
Як вам наперад прадказаў!
Пятру дый вучням так скажыце:
— У Галілею пасьпяшыце!
І там убачыце жывога
Хрыста — Спасіцеля Сьвятога!... —

Аднак сьвятыя тры Марыі
Спужаліся й не гаварылі,
У страху як вады набраўшы,
Нікому слоўца не сказаўшы...

*

А Магдалена дый другія
Да гробу беглі, як і тыя:
Знайшлі і камень той адкінен
І гроб пусты — зусім расчынен,
І двух анёлаў, што сядзелі
У яснай і бліскучай белі...
Ды ім казалі, што «Хрыстос
Сам Уваскрос!»

— Што быў Ён выданы паганам
І бічаваны — крыжаваны. —
Што прыйдзе пры скančэньні сьвету —
Асудзіць вашую плянэту —
Сьвятых і добрых і найгоршых,
Хто жыў на сьвеце — ўсіх памёршых... —

Вось што анёлы ім сказалі,
Тады да вучняў іх паслалі:
— Цяпер, жанчыны, вы ідзіце
І так апосталам скажыце: —

— «Хутчэй ідзіце ў Галілею!
Ісус Хрыстос дае надзею —
Яго пабачыце жывога —
Хрыста і Збаўцу дарагога...» —

*

Жанчыны сьпешна йдуць да хаты,
Той важнай думкаю багаты:
Пятру і ўсім там расказалі,
Што ў гробе чулі й аглядалі,
А вучні, сумныя бязьмеры,
Ім не далі ніякай веры.
Казалі: — Плёткі — больш нічога —
Тут вашы выдумкі з пустога! —
Памёр Хрыстос і з тым канец —
Для Пастыра і для авец . . . —
Дый горка плакалі ў няверы
І шчыльна зачынялі дзьверы . . .

*

Але Марыя — Магдалена
Пабегла зноў на месца гэна,
Дзе гроб быў Госпада й магіла:
Там плакала дый галасіла . . .

Пасьля нагнулася глядзеці —
Аж бачыць — нешта дзіўна сьвеціць,
А гэта зноў былі анёлы —
Такія радасны й вясёлы:
— Марыя, кажуць, чаму плачаш?
Вось гроб пусты — сама ты бачыш:
ХРЫСТОС ЎВАСКРОС! —

Яна глядзіць — аж нехта йдзе! —
Яго пытаецца ў бядзе:
— Ці Ты не знаеш, дзе ёсьць цела?
Яшчэ раз бачыць я хацела . . . —

Яна-ж Хрыста і не пазнала,
Хоць перад Ім сама стаяла.

Хрыстос сказаў ёй: — О, Марыя! —
Яна тады на словы тыя —
— Вучыцель, кажа, ах, вітаю! —
Цяпер пазнала й добра знаю,
Што Ты — Хрыстос,
Што Ты Ўваскрос! —

Хрыстос сказаў:
— Ідзі, скажы братом маім,
Што годзі будзе плакаць ім!
Іду Я да Айца майго —
Да шчасьця вечнага свайго! . . . —

*

І БЕЛАРУСЬ з магілы ўстане:
Нам сонца яснае прагляне
На тым чырвоным, грозным Ўсходзе, —
Мы засьпяваем у свабодзе:
«Хрыстос наш Родны Край мілуе —
АЛЛЕЛЮЯ!»

*а. Я. Гэрмановіч*

Лёндан. 11. IV. 1971

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

***(Працяг)***

## XI

## У ГАСЬЦЯХ СЬВЕДКІ БІБЛЕЙСКІХ ЧАСОЎ

*«І зьявіўся Аўрааму Госпад каля дубровы Мамрэ, калі ён сядзеў каля ўваходу ў шацёр свой у часе дзённай гарачыні. Аўраам узьняў вочы свае і глянуў, і вось, тры мужы стаяць насупраць яго . . . Ён пабег насустрач ім і . . . пакланіўся да зямлі і сказаў: Уладыка! калі я набыў Тваю ласку, не прайдзі міма раба Твайго».*

з БІБЛІІ.

Аб зьяўленьні трох Божых мужоў Аўрааму згадваецца, калі паломнікі апынуцца каля славутага Мамврыйскага Дуба. Гэта на поўдзень ад Ерусаліму сярод велічных Іудзейскіх гораў на месцы колішніх дуброваў Мамрэ. Тады, калі Бог караў за распусту Садом і Гамору, за сорак кілёмэтраў ад Ерусаліму, недалёка ад Мёртвага мора пад засеньню лістоўніка таполі і дубоў, у шатрох жыў спакойна і аддаваў сябе малітве богашукальнік Аўраам. Гэта яму зьявіўся Госпадзь у выглядзе трох вандроўнікаў. А недалёка дубровы Мамрэ ад даўнейшых часоў быў і ёсьць цяпер слаўны і сьвяты для ўсіх трох веравызнаняў — мусульман, жыдоў і хрысьціянаў, — гарад Хэўрон, месца пакланеньня кажнага прававернага хаджы. Тут сем гадоў жыў і кіраваў дзяржаваю Давід. Тут над пячорай пахаваньня Аўраама, Інаака, Іякава і іхніх жонкаў узвышаецца цяпер велічная мячэць у 70 мэтраў удаўжыню і 38 ушыркі з мінарэтамі на кажным рагу моцных сьценаў. Калісьці гэта была вялікая царква сьв.

царыцы Алены. Уніз, у пахавальную пячору Махпел, што была купленая Аўраамам за 400 сіклей срэбра у Эфрона Хэттэяніна, цяпер пушчаюць адно магамэтанскіх сьвятараў — імамаў. Але надмагільныя падпісы і пліты пахаваных патрыярхаў можна добра бачыць з паверху, даступнага ўсім. Агромністыя каменныя саркафагі пад дарагой шаўковай матэрыяй, зялёнай для мужчынаў і чырвонай для жонак, робяць вялікае ўражаньне на ўсіх. Места Хэўрон шануецца магамэтамі ня меньш сьвятых для іх Мэккі і Мэдыны.

Таму і месца колішняй дубровы Мамрэ на адхонных лажбінах, што цягнуцца аж да Міжземнага мора на захад ад Хэўрону, шануецца ўсімі вернікамі. Цяпер замест дубраваў — найбольш ўзараных палёў. Час, дажджы і ветры здзьмухваюць глебу, агаляюць вапняковыя каменьні. Дзе-нідзе сярод пустынных узгоркаў відаць рэшткі былое раскошы — невялікія сады масліны і вінаграднікі. І вось тут, на паўночным сьхіле аднаго з узвышшаў цудам уцалеў да нашага часу адзін дуб з часоў . . . якіх бы Вы падумалі?... з часоў Аўраама! Так, гэта не памылка друку, дарагі чытач! Менавіта, з ЧАСОЎ АЎРААМА . . . З тых незапамятных біблейскіх часоў, калі перад сваім шатром Аўраам пабачыў трох дзівосных вандроўнікаў. Можа гэта якраз і ёсьць той Дуб, які даваў засень Аўрааму ў той цудоўны момант, бо, паводле Сьвятога Пісьма, ён сядзеў у гарачы дзень каля шатра, каб пад паўднёвым сонцам удзень, калі яно там гэтак і смаліць, патрэбна было мець досыць засені. І вось роўна ўсе — і пасьлядоўнікі Ісуса Хрыста, і верныя запаветам Магамэта, і дбайнікі Закону Майсеявага — з аднолькавай руплівасьцяй сьцьвярджаюць, што гэта якраз той самы Дуб, каля якога стаяў Аўраамаў шацёр, калі адбылося Божае Зьявішча.

Многія хрысьціянскія пісьменьнікі Чацьвёртага веку прыгадваюць аб Дубе Аўраама і паказваюць ягонае месца якарз там, дзе ён цяпер і знаходзіцца. Наш паломнік — суродзіч з 12-га веку, ігумен Даніла, пісаў: «Ёсьць жа Дуб Сьвяты побліз дарогі . . . направа стаіць на высокім узвышшы. Дуб ні надта высокі, шурпаты вельмі; галіны яго нахіленыя да зямлі . . . Ад тога Дуба да Хэўрона — дзьве вярсты».

Тое, што Мамврыйскі Дуб ня выдаўся Данілу вельмі прыгожым, зусім зразумела. Палестынскія Дубы вельмі адрозьніваюцца ад нашых беларускіх. Хэўронскі дуб належыць да асаблівага, г. зв. каменнага дубу. Ён мае маленькія лісточкі, жорсткія, выцягнутыя накшталт яйца, з безлічай, як у піле, зубчыкаў. Палестынскі дуб зялёны круглы год. Але ягоныя невялічкія жалуды сьведчаць, што гэта сапраўдны дуб. Яны бадай што нічым не адрозьніваюцца ад эўрапейскіх жалудоў.

Такім чынам, Мамврыйскі Дуд — гэта адзіны цяпер жывы сьведка Богазьяўленьня прабацьку Аўрааму. Таемныя Падарожныя спушчаліся ў Хэўронскую Даліну. Аўраам, седзячы ў засені пад дубам у дзённую гарачыню, пабачыў іх на сьхіле гары, дзе цяпер выбудаваны расейскі сабор і манастыр. Архімандрыд Антанін купіў тую дзялянку з дубам ад Хэўронскага жыхара Ібрагіма Шалудзі за тры тысячы франкаў 1 лістапада 1868 году і замацаваў яго за Рускай Праваслаўнай Духовай Місыяй. Адразу тая дзялянка зямлі была абнесеная сьцяной, каб зберагчы сьвятое дрэва ад фанатыкаў-мусульманаў, якія маглі помсьціцца падпалам, і распачата будаўніцтва Дому Паломнікаў на паўночным сьхіле гары, крыху вышэй Сьвяшчэннага Дуба. У 1874 годзе Дом той адчыніўся для прыйма паломнікаў. З таго Дому добра відаць Хэўронская Даліна, частка гораду Хэўрону, мячэць над пячорай Махпел з грабніцамі прабацькаў. На далёкім Захадзе ледзь сінее ў шэрым тумане Міжземнае мора, да якога яшчэ сотня кілямэтраў.

Праваслаўная Духовая Місыя і далей купляла суседнія дзялянкі ад арабаў аж да самай рэвалюцыі 1917 году. Такім чынам, ейныя ўладаньні разрасліся аж да 72 тысяч і 355 квадратовых мэтраў. На тэй зямлі цяпер цьвітуць вялікія вінаграднікі і агароды для манашаскай брацііі. У 1906 годзе распачалі будаваць вялікую царкву, якую і закончылі ў 1925 годзе. Сам Патрыярх Ерусалімскі Даміан асьвяціў яе ў імя сьв. Прабацькаў, а ейныя бакавыя алтары — у імя Сьвятой Тройцы (правы) і ў імя Сьв. Міколы (левы).

Цяпер там жыве колькі манахаў, што ахоўваюць месца і служаць у Царкве сьв. Прайцоў. На трэці дзень сьвята Пяцідзесятніцы каля Мамврыйскага Дубу адбываецца Божая служба у гонар зьяўленьня Прэсьвятой Тройцы.

Сам жа Дуб абнесены ўздоўж падножжа каменай сьцяною. Вакол яго зроблены жалезны навес, пад якім адбываюцца маленьні. Да ствала прымацаваная ікона Прэсьвятой Тройцы. Уся пляцоўка вакол Дубу агароджаная жалезнымі кратамі.

Каржакаваты Ствол тога Дубу за колькі тысячагодзьдзяў стаўся такім грубым, што разьдзяліўся на колькі ствалоў. Некаторыя зь іх ужо памерлі або былі зламаныя бурай. Але колькі сукоў асяродкавага ствала яшчэ ўсё жывуць, пакрытыя густымі лісьцямі, і даюць штогоду багаты ўраджай жалудоў.

Усевалад Ціхановіч колькі разоў абыйшоў агароджаную пляцоўку, над якой горда ўзвышае сваю зялёную галаву Сьвяты Дуб. Ён

пільна ўглядаўся ў зялёна-рудую карону над галавой. Праз лісьцевую сетку сьвяцілася блакітна-чыстае неба. Таполі па той бок агарожы стаялі ціхімі сьвечкамі, ня кратаючы анічуць лісьцем. Усё вакол выглядала нібыта заварожаным Божай цішынёй. Сама вечнасьць, здавалася, запанавала тут, а над ёю жывым выяўленьнем тога дыханьня адвечнасьці ўздымаўся ўгору сваім жывым, так жывым, як і тысячы гадоў таку назад, зялёным лісьцем. Усевалад доўга ня мог запыніць свайго ўзрушаньня — магчымасьцяй адчуць пульсаваньне жывога жыцьця з глыбіні вякоў і тысячагодзьдзяў. Яму здавалася, што ён чуе, як грукочуць па карэньнях тога дрэва сокі зямлі, што ішлі з самых нетраў старога часу і паілі ім прабацьку ўсіх дрэваў, што аздаблялі тое ўзвышша. Усевалад беражліва клаў на руку леташнія пажаўцелыя ад часу і дажджу жалудкі. Ягонае сэрца сьціскалася жалем да тых сьвятых дароў, якіх гэтак шчодра раськідаў па зямлі сьвяты Дуб. І ён руплíва пачаў зьбіраць іх у мяшэчак, каб завесьці на той бок Акіяну, дзе яны яму будуць заўсёды соладка прыгадваць тыя часіны, калі стаяў беспасярэдня каля тога Дубу.

Тым часам усіх запрасілі ў Царкву памаліцца. Прайшлі дарогаю пад вінаградньгмі дрэвамі, што цяжкімі гронкамі навісалі скрозь і закрывалі ад неба паломнікаў суцэльным парасонам. Дзе-нідзе гронкі пукатага вінаграду зьвісалі гэтак нізка, што краналіся галоў падарожных. Гэтак нібыта і прасіліся, каб чыясьці рука сарвала іх. Дзе-хто і спакусіўся быў тым плодам, употай ад іншых разжоўваў ціхама салодкія ягадзіцы. Мяркуем, што на гэты раз паломніцкія «Адамы і Евы» не ўпадобяцца прабацькам, якіх д'ябал здолеў спакусіць і ў грэх увесьці.

Пасьля агляду цудоўнае царквы і маленьня ў ёй, госьці былі запрошаныя ў манастырскую Трапезную. І трэба прызнаць, што на гэты раз пачостка пераўзышла ўсе чаканьні. Паломнікаў звычайна ў манастырох стараюцца пачаставаць як мага лепш. Гэтак было на Елеоне, у Гефсіманіі, Віфаніі і іншых месцах. Манашая брація ўсюды і заўсёды рада прымаць паломнікаў і дзяліць з імі хлеб-соль. Але тут каля Дуба Мамврыйскага брація гэтак пастаралася, што пакінула незабыўны ўспамін на ўсё жыцьцё. У часе яе Ігумен манастыра чытаў тэкст на тэмы сьвятых падзеяў тых месцаў.

Запамяталася агульнае ўзвышанае рэлігійнае пачуцьцё, што ахапіла ўсіх гасьцей. Да добрага настрою прычынілася асаблівае самаробнае вінаграднае віно, якім колькі хто жадаў частаваўся кажны.

У канцы манахі нават прапанавалі ўзяць з сабою па пляшцы тога віна. І Ўсевалад пазьней шкадаваў, што не скарыстаў з тае нагоды. Гэта-ж было такое віно, ад якога не п'янее чалавек, але чым больш п'е яго, тым больш вясёлы і ўздымны настрой апаноўвае яго. Галаве было ад яго лёгка, нагам ня цяжка, а на сэрцы лагодна і гэтак добра, што хочацца здаецца ўвесь сьвет абняць і ўсім дараваць усе колішнія і заадно і прышлыя крыўды. Так, гэта сапраўды хрысьціянскае віно і, магчыма, падобным віном некалі частаваў Ісус Хрыстос сваіх вучняў у часе Тайнай Вячэры на Сіёне, казаў: «Пійте от нея всі: сія есть кров Моя, яже за вы и за многія изливаемая во оставленіе грехов».

І калі цэпер Усевалад Ціхановіч згадвае багацьце трапезы каля Дубу Мамврыйскага і параўноўвае з абставінамі ў бяднейшым манастыры Прэпадобнага Георгія Хозэвіта па дарозе з Іерыхону ў Ерусалім, ягонае сэрца міжвольна сьціскаецца жалем. Там бедныя манахі ў закінутым высока і далёка ў пустынныя горы былі адно ў стане вітаць паломнікаў гучным звонам. Іхныя старыя лядаштыя рукі ўсё ж неяк здолелі з высокай надгорнай званіцы агаласіць прастору рэхам align розагалосых званоў.

Той тады звон горнае царквы Хозэвіта напоўніў сэрцы паломнікаў глыбокай удзячнасьцяй і спагадай да гасьцінных, закінутых у іншы сьвет дзеля іншага праведнага жыцьця, манахаў-пустыньнікаў.

Яны спатыкалі гасьцей тэю сольлю-хлебам, які яны адно і мелі. Іхны звон прагучаў у сэрцы вяшчуном-благавестам, за які ўсе, і Ўсевалад Ціхановіч асобна, былі ўдзячныя. Праўда, ня шмат цяпер знайшлося аматараў сяліцца там. Пяпер там і дзесятка манахаў не набярэцца. Адно колькі іх адважылася пасяліцца над горным патокам Харафа, які ўзімку з шумам і грымотным стукам нясе свае імклівыя воды ўздоўж глыбака пракапанага яру. Туды яшчэ ў біблейскія часы прышоў быў смуткаваць і маліцца нясуцешны Іаакім з роду Давідавага, якому за бязьдзетнасьць сьвятары не дазволілі прыняць ахвяру ў Храме. Яго тут наведаў Анёл Гасподзен і абяцаў яму нараджэньне Благаслвёнай дачкі. Праведнік Іаакім вярнуўся да жонкі і хутка займеў дачку Марыю. А сьв. Анна пазьней малілася з колькімі набожнымі жонамі ў Кутылійскай Цясьніне і жыла там пустыньніцай. У пятым стагодзьдзі там знайшоў быў сабе прыстанішча пасьля пакланеньня Ерусалімскім сьвятыням сучасьнік Саввы Асьвячонага, прэпадобны Іаан з Эгіпту. За ім і была створаная тут Хозевіцкая Лаўра, а самога Іаанна празвалі Хазевітам. У старыя гады адзін ён быў за япіс-

капа кесарыі Палестынскай, але аддаў перавагу сваёй Лаўры, дзе і памёр у Госпадзе.

Лаўра тая асабліва павялічылася за часоў Георгія Хозевіта, у 6—7 і 8 вякох. Ягоная грабніца да сяньня паказваецца і манастыр носіць ягонае імя. Ён колькі разоў разбураўся дзікімі плямёнамі. Грэцкая Патрыярхія ў 1880 г. канчальна аднавіла яго ў выглядзе падобным на манастыр на Сорakaдзённай гары. Манастырскія келы і Храм высячаныя цалкам у скале на вышыні ў 25 мэтраў над ручвом страшнага ўзімку і безводнага ўлетку патока.

Ад старажытнай Лаўры засталіся мастацкія фрэскі з абразамі жыцця прав. Іаакіма, магільня прэп. Георгія, мазаіка 4—6 вякоў. Над дахам сучаснае царквы, побач блакітнага купала і стройнай вежы каланчы, на горным схоне — пячора сьв. прарока Ільлі. Тут ён жыў, калі Ізраільскі цар Ахава загадаў яму пакінуць Самарыю і «схавацца каля патоку Хорафа, што насупраць Іардана». Тут сьв. Ільлю карміў воран. У пячоры стаіць вялікі абраз прарока Ільі, які прымае ежу ад ворана. Цікава, што і да гэтага часу плойма воранаў заўсёды кружыцца над тым узвышшам.

Месца манастыра прэп. Георгія Хозевіта надзвычайна цікавае і асаблівае. Трэба доўга ісьці да яго горнаю камяністаю сьцежкаю, да перакінутага праз глыбокую цясніну каменнага маста. Унізе пакінуты млын зарос дзікаю травою і кустамі. Шуміць паціху бягучая вада па каналу аж у Ерусалім. Дахаць сюды можна адно на осьліку або пеша. Сьцяжынка ўвесь час бяжыць побач крутога яру, і трэба быць асьцярожным, каб не зваліцца ў бездань.

Уздоўж усхонных скалаў і да сяньня яшчэ жывуць дзе-нідзе пустэльнікі ў пячорах. Відаць пратаптаныя сьцежачкі уздоўж адхонных кручаў. Надворны бок пячоры звычайна зачынены драўлянымі дзьверцамі пад крыжом. Зь іх спушчаюцца ўніз вяровачныя лесьніцы, часта адзіны спосаб дастацца ў хаціну такога пустыньніка.

Прыходзіцца дзівіцца, чым яны жывуць, калі нідзе ніякіх адзнакаў абробленае зямлі ці якіх гародчыкаў. Відаць, патрэбы свае зводзяць да мінімуму. Але гэткім спосабам самаізаляваньня ад грэшнага сьвету, яны ратуюцца ад сусьветнага наступу сучаснае Садомы і Гаморы. Кажнаму сваё. Нам, людзям сьвецкага жыцьця, бачыцца іншая дарога служэньня Госпаду Богу. Мы стараемся правадзіць Божыя законы ў самім жыцьці. Але няма патрэбы адмаўляць і права пустыньніка собскімі дарогамі ісьці да Бога.

Дарэчы, знайшоў у манастыры Хозевіта прытулак сваёй Богалюбнай душы і адзін чалавек казак з Дону. Каб хоць нешта здабыць на пракармленьне, ён расчыняе перад паломнікамі сундучок з чэрапам чалавека і прапаноўвае цалаваць яго, як аднаго з сьвятых падзвіжнікаў Грузіі. Ад пацалункаў той чэрап ужо аж блішчыць. Вернікі у чарзе падыходзяць пакланіцца тому сьвятому, цалуюць і кладуць даляры на скрынку. Казак кажнага запэўнівае, што адна думка аб тым падзьвіжніку наводзіць на спакой і пасяляе ў душы сьветлыя надзеі.

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Малітвы пры сьвятой літургіі 1695 г.

*(Заканчэньне)*[1]

Ґды зась вернувшися священник знову до престола, албо діякон, и вышовши на амбон, мовит: «Прости, пріемъше святыя пречистыя животворящія Христовы Тайны, благодарим Господа» и прочая, ты в тот час ставши з земли, розмышляй, яко апостолове святыи вернувшися з Елеонской горы з великою радостію до Іерусалиму, в набоженстве и богомыслности чекали пристя Потешителя Духа Святого.

Ґды священник, вышедши посред церкве, заамбонную читает молитву, розмышляй яко Дух Святый на апостолов святых вкупе молячыхся з ишол и оных осветил, и яко по пріятю Духа Святого юж смелымися стали, не таили, не крили, але беспечне на проповедане Евангелія на свет выходили.

Ґды дору священник роздает, розмышляй, яко по всем свете науку Христову апостолове святыи людем розсевали, и оных учили; и яко през вкладане рук апостолских верныи окрещенныи дары Духа Святого пріимовали. Казаніе ґды бывает, розмышляй и припоминай собе, ижесь принял Духа Святого, абысь завше противко чотыром душевным непріятелем, свету, діяволу и грехови моцно вое-

[1] Глядзі «Божым шляхам» № 5, 6 — 1970; 1 — 1971.

вал и спротивлялъся им. А еслись в чом противко Богу, ближнему, собе самому выкрочил, абысься без омешканя обачил, поправил, жаловал, покутовал и болшей юж чинити того перестал.

Ґды засъ мовит священник: «Благословеніе Господне на вас» и прочая, ты приводячи себе на пямять конец живота твоего през смерть, конец света, второе присте Христово и страшный его суд, набожне мов:

> Боже ущедри ны и благостови ны, просвети лице твое на ны и помилуй ны, еже познати на земли путь твой и получити спасеніе твое во веки. Аминь.

А ґды кончачи святую Литургію мо́вит діякон «Премудрость», а хор, похваляючи Пресвятую Богородицу, мовит «Честнейшую херувим» и прочая, а священник чинит отпуст, Пречистую Богородицу и всех святых припоминаючи, ты теж взывай Пречистои Панны Родителки Божей и всех святых, абыся за тобою часу смерти твоей, и в день страшнаго суда, до Збавителя причинили и молитвами своими от всего злого абы тя выбавляли, и мов з набоженством тую молитву:

> Молитва на отпусте святой Литургіи ко Пресвятой Богородици и ко всем святым. Честнейшая и славнейшая всех чиноначалій небесных, Дево Богородице Маріе, Бога Слова без истленія родшая, призри на мое недостойное моленіе, смиренно молюся, со безъплотными же чинми и все-



*Паўустаў 1695 г. Малітвы пры съвятой літургії.*

ми святыми, простри Богоносніи свои руце и милостива сотвори ми Сына твоего, Владыку, Судію и Господа моего, ныне и в день смерти моея, и на страшном суде матерски того умоли, да одесную себе поставит мя: можеши бо елика хощеши, едина суши предстательница и заступница роду християнскому.

Ґды зась замыкает царскіи двери по отпусте, приведи собе на память, иж по скончаню света юж жадная ублаганая офера, ани Литургія святая, ани жадная иная помоч не будет душам на земли.

А ґды зараз пошедши да жертовника, священник албо діякон остаток Божественных Тайн поживает, розмышляй, иж хоть свет скончится, заживане еднак хвалы Збавителя нашего на веки без конца трвати будет. А же діякон, а не священник, остаток Пречистых истребляет Тайн, для того тоеся деет, абысмо ведали, иж досконалеся будут тешити не толко великіи святыи Божіи, и люди вышшыи, негдысь на том свете значныи, але и подлого роду, малыи и нищіи духом, будут хвалы его заживати безъпечне, обфите и до сытости, ведлуг псалмисты мовячого: «Насыщуся, внегда явитъся ми слава твоя». Все тое набожне розъмышляючи и в память обносячи, а замыкаючи молитвы при святой литургии, з набоженством мов тую благодарную молитву:

Молитва по святой литургіи.
Благодару тя, небесный Царю, иже мене грешнаго сподобил еси в сей день в божественнем и святем храме помолитися тебе и вся моя воспомянути согрешенія. Сам, Господи, таковое ми даруй помышленіе и желаніе во вся дни живота моего, яко да и твое благословлю благоутробіе, славлю милость и величаю благость во веки. Аминь.

А потом, хотячи выйти з церкве, полецай себе самого и все справы твои Господу Богу, мовячи набожне тую молитву:

Молитва по святой литургіи, егда исходиши из церкве.
В руце твои превеликаго милосердія, о Боже мой, вручаю душу и тело мое, чувства и глаголы моя, дела моя и вся тела и души моея употребленія, вход и исход мой, веру и жительство мое, теченіе и кончину живота моего, день и час издыханія моего, преставленіе мое, упокоеніе и воскресеніе души и тела моего со святыми избранными твоими; ты же мя благослови, помилуй, и избави от всякого зла, и безгрешна сохрани мя во вся дни живота моего, яко да твоею благодатію укрепляем, получу живот вечный со святыми твоими в царствіи твоем, и с ними славлю тя во веки. Аминь.

---

*Др. Тамаш Падзява*

# Жанчыны — настаўнікамі царквы

*(Заканчэньне)*

КАЦЯРЫНА старалася мірыць людзей, а грэшнікаў прыводзіла да Бога, бараніла слабых і прасьледаваных. Памагала радай і навучаньнем, групуючы навокал вучняў і вучаніц, сярод якіх бывала ня толькі прастата, але й выдатныя грамадзяне гор. Сіены: палітыкі, урадоўцы, амбасадары, артысты, паэты, духоўныя, рамесьнікі, а нават і рэвалюцыянэры. Усе яны пакорна слухалі навучаньне маладой дзяўчыны, якая тварыла з іх пабожную сям'ю, праводзячы рэформу грамадзкага жыцьця.

Часам яна ня ела па некалька месяцаў: проста не пераносіла ніякае ежы, апрача Сьвятога Прычасьця і бывала аслаблена аж да паўсьмерці. Але, калі яе клікалі на помач, тады чула ў сабе такую сілу, што ўставала зараз і служыла людзям у іх патрэбах, хоць нярэдка тыя пасьля станавіліся ейнымі ворагамі. У 1374 г. ў Італіі лютавала чума: Кацярына адважна служыць хворым, цудоўна корміць галодных — аж далёка ўпекачы разносяць ейную славу!

І ў гэтым часе Кацярына прыймае удзел у царкоўным жыцьці. Дыктуе і пасылае пісьмы да выдатных грамадзян — сьвецкіх і духоўных, нават да біскупаў, кардыналаў, да каралёў і каралеваў, абвяшчаючы ўсім неабходнасьць любові да Хрыста і да бліжніх. Усіх заклікае да рупнасьці аб душы, да цярплівасьці, паслушэнства і згоды. Дый у 1375 г. гэтая дачка фарбавальніка была ўжо ведамай уплывовай асобай у Італіі. Памірыла пышнага князя Вісконті з жыхырамі гораду Пізы. Умешваецца ў спрэчкі невялікіх італьянскіх рэспублікаў, пасылае лісты да гарадоў, да ваенных камандзіраў і ўрэшце да Рымскага Папы. У 1376 яна едзе ў Флё-

рэнцыю, якая збунтавалася супраць Папы Рыгора XI і заклікае жыхароў да паслушэнства Апостальскаму Пасаду. Там Кацярына выступае з прамовай у гарадзкой Радзе; а пасьля, як дэлегатка гораду, едзе да Папы ў горад Авіньён, дзе часова прабывалі Рымскія Папы.

У Авіньёне Кацярына — паводле загаду Хрыста — радзіць Папе вярнуцца ў Рым: як пасланніца Самога Бога, яна перамагае інтрыгі францускіх кардыналаў. І сапраўды Папа паехаў морам у Рым, а Кацярына пайшла туды пехатою. Фальшывыя дарадчыкі ў дарозе, карыстаючы з адсутнасьці Кацярыны, пераконваюць Папу, каб вярнуўся ў Авіньён. Папа хістаецца, але, спаткаўшыся з Кацярынай у Генуі, перастаў слухаць сваіх шаптуноў і плыве далей у Рым.

Ніколі дасюль Божая рука ня была так відавочнай у дзейнасьці Кацярыны, як у гэтым выпадку: 14 студня Папа быў урачыста спатканы ў Рыме; а Кацярына вярнулася ў родны горад Сіену. Жыве ў маткі, працуе дома ці ў беднякоў цэлымі днямі, а ўночы дыктуе пісьмы, бо сама і далей ня ўмее пісаць . . . Часта выяжджае, каб памірыць ваюючых рыцараў.

Калі нарэшце ўдалося ёй памірыць Флёрэнцыю з Папай у 1378, Кацярына адасобілася і пачала дыктаваць свой «Дыялёг» або гутарку душы з Богам. І гэта ёсьць сапраўдная жамчужына містычнай літаратуры, перакладзеная на розныя мовы сьвету

Аднак адасабненьне Кацярыны трывае толькі 4 месяцы, бо ў царкоўным жыцьці наступілі вялізныя перамены. Вялікая радасьць з павароту Папы ў Рым замянілася ў вялізны смутак, бо ў Царкве пачалася «Заходняя Схізма». Па сьмерці Рыгора XI кардыналы сабраліся на выбары Папы, але рымляне баяліся, каб ня быў выбраны француз і дамагаліся Папы-рымляніна. Праўда, быў выбраны італьянец, хоць ня рымлянін: ён назваўся Урбанам VI-ым. Здавалася, што выбары прайшлі памысна: Папа каранаваўся і пачаў урадаваньне. Аднак ён аказаўся чалавекам вострага характару і пачаў праводзіць рэформы станоўка і сурова. Якраз пачалася гарачыня ў Рыме і кардыналы пачалі выяжджаць на канікулы. На няшчасьце група нездаволеных кардыналаў сабралася ў горадзе Ананьі і аб'явілі выбары Урбана VI неважнымі, бо былі праведзеныя пад націскам рымскага натоўпу. І вось яны выбралі іншага кандыдата на Папу, які назваўся Клемансам VII. Гэта быў француз, які зараз выехаў зноў у Авіньён: тады ўвесь каталіцкі сьвет падзяліўся на дзьве Цэрквы: Францыя, Гішпанія, Сыцылія, Шкоцыя прызнавалі Клемэнса VII, а іншыя асталіся пры Урбане VI. Абодвы лічылі сябе правільнымі наступнікамі апостала Пятра і кіравалі часткай сьвету. Але гэта выклікала вялікае згаршэньне ў Царкве і нязгоду між народамі.

Кацярына была прыгнечана такімі падзеямі. У пісьмах яна станоўка бароніць провоў Урбана VI, які просіць яе прыехаць у Рым. У Рыме яна энэргічна прыступае да дзеяньня: стараецца утрымаць верных кардыналаў у паслушэнстве Папе, выступаючы з прамовамі перад кардыналамі і перад самым Папай. А ў 1379 г. выступае на публічных сабраньнях духавенства і энэргічна бароніць царкоўную згоду, лучнасьць і аднамыснасьць. Але ўжо ў пачатку 1380 г. яе пакідаюць сілы: ледзь можа ўстаць, каб пайсьці ў царкву, а пасьля Прычасьця ня можа сама вярнуцца дамоў і яе прыносяць. Выглядае, як высушаная на сонцы. Гаворыць аб сабе, што паміраe як ахвяра за згоду ў Царкве. Памёрла 29-га красавіка 1380. Пяць гадоў пасьля сьмерці яе мошчы-рэліквіі былі ўрачыста перанесены ў гор. Сіену: у працэсіі ішла з пакутніцамі ёйная матка, маючы 80 гадоў; а Кацярына была ейнай дачкой, 25 дзіцём у бацькоў.

У 1461 г. прызнана сьвятой. Папа Пій IX — на просьбу рымскага сэнату — прызнаў ёй тытул «II-ой Выратавальніцы Рыму». У Рыме можна ўбачыць два памятнікі сьв. Кацярыны. А Папа Павал VI надаў ёй тытул «ДОКТАРА — Настаўніка Царквы».

А які ўплыў маюць ейныя 389 лістоў, якія перахаваліся, ды яе «Дыялёг», паказвае факт, што на Мілянскім Унівэрсытэце існуе асобны факультэт, які займаецца студыяваньнем працаў і духу сьвятой Кацярыны з Сіены.

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА І СУСЬВЕТНАЯ РАДА ЦЭРКВАЎ

Сусьветная Рада Цэркваў лучыць розныя цэрквы пратэстанскія і праваслаўную, а каталікі тымчасам уваходзяць толькі як абсарватары. Паўстала прапанова каталіцкай царкве ўвайсьці ў гэтую супольнасьць — у Раду. Шмат рацыяў прамаўляе за гэта, аднак яшчэ пастановы аканчальнай ня было. Праўда, ад часу Папы Яна XXIII-га каталікі ўваходзяць у супольную дзейнасьць цэркваў, калі справа датычыць адказнасьці за мір на сьвеце, за эканамічны ці сацыяльны прагрэс, за выхаваньне моладзі ды інш. Але ставіцца ўмова, каб была захавана цэласьць веры.

# Яго Эксцэленцыі Апостольскаму Нунцыю у Варшаве Беларускага Каталіцкага Цэнтру у Вільні

## Pro Memoria

Назначэньне новага біскупа на сталіцу Пінскай р.-каталіцкай дыэцэзіі, якое па сьмерці сьв. памяці біскупа З. Лазінскага пэўне-ж у хуткім часе наступіць, змушае нас злажыць ВАШАЙ ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ хоць гэтае кароткае «PRO MEMORIA».

Каталікі Пінскай дыэцэзіі агулам належаць да нацыянальнасьці беларускай. Факт гэты відаць так-жа з працы прафэсара Э. Карскага.[1] Праўда, палякі, ня выключаючы нават і духавенства, беларусаў каталікоў, якіх жыве пад Польшчай больш-менш мільён, выключна толькі дзеля іх каталіцкасьці, — бо говораць яны толькі па беларуску — уважаюць часта за палякоў. Аднак апошнім часам гэты так крыўдны для беларусаў і яўна абражаючы праўду факт сяньня ўжо ня ўсюды знаходзіць прызнаньне і з боку палякоў. Так напрыклад К. Сроковскі,[2]) выдатны польскі публіцыст-палітык, грунтоўна выказвае фальш польскай урадовай статыстыкі з 1921 г., у якой бадай усе беларусы каталікі, а навет і часьць беларусаў праваслаўных запісаны палякамі.

Дык вось-жа і каталікі Пінскай дыяцэзіі, — за выняткам беларуска-украінскіх і украінскіх паўдзённых і паўдзённа-заходніх часьцін яе, — гэта беларусы. Да палякоў належыць тут нязначная жменька абшарнікаў, а так-жа прывезеных з Польшчы урадоўцаў.

Агульна-беларускі рэнэсанс, які пачаўся яшчэ у XIX ст. і які адбываецца і сяньня, ахапіў так-жа і беларусаў каталікоў, якія разам з праваслаўнымі сваімі братамі імкнуцца да паўнаты свайго народнага адраджэньня — культурнага і палітычнага, імкнучыся так-жа і да свайго адраджэньня рэлігійнага, адкідаючы гісторыяй накіненую ім у жыцьці іх рэлігійным чужую польскую мову, а жадаючы сваей мовы беларускай роднай як найлепшага натуральнага праваднікa Хрыстовых каталіцкіх ідэалаў.

Тымчасам гэтыя слушныя і справядлівыя беларусаў каталікоў імкненьні і дамаганьні, як у польскім духавенстве, так і грамадзянстве сьвецкім, з малымі выняткамі, агулам не знаходзяць спачуваньня. Палякі і далей жадаюць, каб Каталіцкі Касьцёл на беларускіх землях служыў іх нацыянальнаму і палітычнаму эгоізму.

Гэткія адносіны палякоў да Касьцёла на беларускіх землях незвычайна крыўдны прадусім для самога-ж Касьцёла. Беларусы каталікі, бачучы ў Касьцеле, замест установы рэлігійнай і Божай, установу, што служыць польскім дачасным інтарэсам, халадзеюць да яго, паволі ад яго адыходзяць, а нават часта набіраюць да яго ненавісьці. Гэты сумны факт асабліва ярка кідаецца у вочы сяньня. Сяньня ужо гледзячы на ўсе гэта, можна прадбачыць, што на выпадак якога вялікага грамадзка-палітычнага забурэньня, як рэвалюцыя ці вайна, што у сяньняшніх часах ня ёсьць выключаным, беларусы каталікі, даведзеныя сваей рэлігійнай традыцыяй да роспачы, замест бараніць Касьцёл, могуць далучыцца да ягоных ворагаў, як часта мы бачым нават у далёкіх ад Саветаў і чыста каталіцкіх краёх.

Аб рэлігійнай-жа уніі на нашых землях у гэткіх варунках ня прыходзіцца і гаварыць. Беларусы праваслаўныя, судзячы па іх сягоньняшніх настроях і бяручы пад увагу адсутнасьць на нашых землях уніяцкага біскупа беларуса, да Каталіцкага Касьцёла у яго польскай форме далучыцца не адважацца.

Вось-жа у імя дабра Каталіцкага Касьцёла і у імя дабра нашага народу уважаем за свой сьвяты абавязак на усё гэта зьвярнуць увагу Вашай Эксцэленцыі і прасіць аб усім гэтым паінфармаваць АПОСТАЛЬСКУЮ СТАЛІЦУ, — прадстаўляючы ей аднначасна нашу апінію і нашу просьбу, каб на вакуючую Пінскую біскупскую сталіцу назначаны быў біскуп беларус, што былоб сапраўды справядлівым і сапраўды карысным для Каталіцкага Касьцёла.

Галоўнай і першай задачай нованазначанага біскупа былоб завядзеньне, нікога, ведама, ня крыўдзячы, беларускай мовы у дадатковых набажэнствах для каталікоў беларусаў, а так-жа увядзеньне у духоўнай Пінскай сэмінарыі беларусазнаўства, як мовы, гісто-

1) Праф. Е. Ф. Карский, Белоруссы, I, Вільно 1904.

2) Die Nationalitäten in den Staaten Europas, Wien 1931. Konstanty Srokowski, Sprawa narodnościowa na Kresach Wschodnich, Kraków 1924.

рыі Беларусі і гісторыі беларускай літаратуры, што дагэтуль, на вялікі жаль, ня было зробленым.

Пры гэтай аказіі уважаем, так-жа за свой абавязак успомніць яшчэ і аб дыэцэзіі Віленскай, дзе жыцьцё беларусаў каталікоў больш чым ненармальнае.

Каталіцкае насельніцтва ў гэтай дыэцэзіі, за выняткам беларуска-літоўскіх і літоўскіх зямель, а так-жа за выняткам жмені абшарнікаў і прыбыўшых з Польшчы урадоўцаў, у сваей вялізарнай большасьці, так жа беларускае.

Тымчасам сучасны пастыр Віленскай дыэцэзіі арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі усё гэта цалком ігноруе і усю сваю працу вядзе у духу выбітна польскім нацыяналістычным. У віленскай духоўнай сэмінарыі беларуская мова не выкладаецца, нават хоцьбы як прадмет. Акцыя каталіцкая вядзецца выключна па польску і ў польскім нацыяналістычным духу, нават апошні Эўхарыстычны Кангрэс, які адбыўся 8, 9 і 10. V. 1931 быў так-жа хутчэй польскай народнай дэмонстрацыяй, як актам рэлігійным. На факт гэты у свaім часе зьвярнула каталіцкая беларуская і літоўская прэса («Хрысьціянская Думка» № 10 і «Вільняус Рытоюс» №№ 38 і 39, 1931).

Справа-ж уніі касьцельнай, наскольні у дыэцэзіі Пінскай дзякуючы вялікай любові гэтай справы сьв. памяці біскупа Лазінскага хоць дужа нязначна, — прабавала разьвівацца, то справа гэта у дыэцэзіі Віленскай, калі ня лічыць пару пляцовак місыйных езуіцкіх, нават ня рушыла з месца. Сяньня можна пачуць сказ з вуснаў беларусаў праваслаўных: — пад апеку біскупа Ялбжыкоўскага, які гэтак яўна крыўлзіць братоў каталікоў, мы ня пойдзем.

Сяньня ужо дзеля яўнай варожасьці арцыбіскупа Ялбжыкоўскага да беларусаў не уважае яго за свайго пастыра ня толькі беларуская каталіцкая інтэлігенцыя і моладзь, але так-жа у значнай частцы і беларускае сялянства. Аб шкодзе гэтага палажэньня для Каталіцкага Касьцёла, як цяпер, так асабліва у недалёкай будучыне, даказваць былоб лішнім.

Дык вось-жа і у гэтай справе асьмеліваемся прыпомніць ВАШАЙ ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ, як прадстаўніку АПОСТОЛЬСКАЙ СТАЛІЦЫ, што назначэньне у Вільню біскупа суфрагана беларуса былоб хоць частковай запабегай злу і хоць частковай нагародай тых крыўдаў народу, так — уважаем — і Каталіцкаму Касьцёлу.

I Ад каталіцкіх прадстаўнікаў у Беларускім нацыянальным Камітэце у Вільні

II Ад каталіцкай фракцыі Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі

III Ад Беларускага Каталіцкага Студэнства

IV Ад Беларускай Каталіцкай Моладзі

V Ад Беларускага Каталіцкага Выдавецтва

VI Ад Эгзэкутывы Беларуска-Літоўскага Каталіцкага Зьезду.

Вільня, Полацкая 4—10.
10. IV. 32.

Копія гэтай Про-мэморыі беларусаў каталікоў да Нунцыя Рымскага Папы ў Польшчы Францішка Мармаджджы († 1949) знаходзіцца ў Архіве Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Нажаль, не пададзены прозьвішчы асобаў, якія гэты мэморыял падпісалі.

Парушаныя ў дакуменце справы: назначэньне на Пінскі пасад беларускага біскупа і справа ўжываньня беларускай мовы ў сьвятынях да сяньня зьяўляюцца актуальнымі.

---

*Др. Т. Падзява*

# Беларускае багацьце

## I

## КУЛЬТУРНЫЯ ЎПЛЫВЫ ЎСХОДУ І ЗАХАДУ НА БЕЛАРУСІ

У працягу ўсяго жыцьця мы вучымся. Навука — багацьце. Багацьце рэдка хто зьбірае толькі для сябе і яго нам замала для шчасьця. А Хрыстос вучыць, што багацьцем трэ' дзяліцца з другімі: калі падзел праводзіцца разумна, тады нашае шчасьце — духовае і матар'яльнае — павялічаецца.

У гэтай гутарцы хацелася-б мне падзяліцца той навукай, якую ўважаю за сваё багацьце. Зьбіралася яно ў працягу 60-ці гадоў, якія, на дзіва, дзеляцца на пэрыяды па 13 гадоў кажны. Толькі пасьля ўблыталася каля сямі гадоў бальшавіцкае няволі, якую можна назваць «акадэміяй». Пасьля яе 13 гадоў у Польшчы былі якбы білянсам усяе маей навукі, з якой цяпер належыць зрабіць практычныя высновы, а гэтымі падзяліцца з сваімі суродзічамі — гэта становіцца сапраўднай патрэбай.

На першым пляне хачу паставіць тую практычную карысьць, што будзе мэтай маей гутаркі: Чаго найбольш патрэба Беларусі

ў пэрыядзе будаваньня нашае будучыні, як вольнага народу, які будзе магчы сказаць суседзям:

«Чаго прышлі да нас? Чаго вам трэба?
Нас вызваліць? Асвабаджаць?
*Свабоды вашай* мы ня просім з неба,
Яе і ворагам не радзім знаць.
Ня трэба нам яе, сабе вы занатуйце,
Назад вазьміце свой вы дар!
Дык ведайце, народу голас чуйце:
*Я сам сабе* і пан і гаспадар!...»

*

Сяньня беларускі народ зьяўляецца паўнапраўным сябрам Аб'еднаных Нацыяў, хоць, будучы паднявольным, не мае ў ёй сваіх сувэрэнных прадстаўнікоў. Ня ў гэтым аднак нашае найбольшае гора. Улада — ня ёсьць народам, асабліва, калі ўлада насылаецца захопнікамі. І ўлада вельмі лёгка можа зьмяніцца, як вучыць гісторыя, а народ астаецца сабой, пакуль ня згубіць свае сьведамасьці. А мы сьведамасьці ня згубілі нават тады, калі нас падзялілі, як народ бяздзяржаўны. І наш народ перажывае найцяжэйшы час культурнага людаедзтва з двух бакоў, пэўна — ня без вялізных стратаў.

Найбольш шкодным аказаўся для нас культурны антаганізм між Польшчай і Расеяй: ён падзяліў нас на дзьве культурныя часткі. Вось недахоп еднасьці ў поглядах вельмі лёгка вядзе народ да нязгоды. На гэты факт зьвярнуў калісь увагу наш Ластоўскі. У сваім Беларускім Календары ён даў артыкул: «Ці ёсьць расейская і польская культура?» Яму здаралася сустракаць беларусаў, якія ня чураліся народу, аднак гаварылі: «Я — беларус польскае (або расейскае) культуры». І Ластоўскі, замест доказаў у такой важнай справе, даў толькі параўнаньне з прыповесьці аб рабіне, які меў сварлівую жонку, што журыла свайго мужа: «Чаму мы такія бедныя?» — Каб яе пацешыць, рабін сказаў пад вялікім сакрэтам, што іхны цяжкі ліхтар ёсьць з чыстага золата, а пасярэбраны таму, каб усьцерагчы ад зладзеяў. І жанчына паспакайнела.

І Ластоўскі сьмела заявіў, што расейская і польская культура — гэта чыста фікцыя, як «залаты» ліхтар рабіна. І сьцьвярджаў, што ёсьць толькі адна агульна — эўрапэйская культура — ад Атлянтыку да Ўралу.

На жаль, гэта ня ёсьць праўдзіва! А таму, што такая інфармацыя Ластоўскага дайшла да мяне ў першую 13-годку, (1910—1913), дык я праз блізка 50 гадоў мог пазнаваць гэтую праблему і рэгістраваць падзеі ў бацькаўскім доме да 17-га году жыцьця і пасьля ў школе, дый заўважыў польскі і расейскі ўплыў на нашую сям'ю. Пасьля 13 г. праседзіў на школьнай лавачцы дый грунтоўна пазнаў заходня-эўрапэйскую культуру, а на трэці пэрыяд (13 гадоў) я трапіў у расейскае культурнае асяродзьдзе. Так мне прышлося пазнаваць і параўнаць глыбокую розьніцу між Усходам і Захадам.

Быццам гэтага было мала, мне ўжо супраць маей волі — з завязанымі вачамі і ў ланцугох — аддалі ў савецкую «акадэмію», дзе мне цьвёрда заявілі: «Ня ўмееш? — Научым!» і «Ня хочаш? — Прымусім!» Так і вучылі мяне праз 5 месяцаў сьледзтва... Ну, і пасьле праз 6 з лішкай гадоў я будаваў у лягерах камунізм — (згінь ён — прападзі!).

Далейшая лекцыя ў гэтай акадэміі была наступная: — Хочаш выйсьці жывым, або прынамсі, каб цябе ня білі, дык запамятай пытаньні і адказ: «Бачыў? — Не, не бачыў!» І далей: «Ведаеш?» — «Не, ня ведаю!» і «Чуў?» — «Ня чуў!»...

Запамятаўшы гэтую навуку, будучы сьляпым, глухім і нямым, я меў досыць часу, каб перадумаць усе свае спасьцярогі. Калі-ж я нарэшце апынуўся (у 1955) у Польшчы зноў на 13 гадоў, я мог і мусіў ня толькі дагнаць заходня-эўрапэйскую культуру, ад якой адстаў на цэлых 20 гадоў, але і запісаць ужо свой досьлед. Гэтак сабралася ў мяне матар'ялу на некалькі прэлекцыяў, калі-б знайшліся ахвотнікі паслухаць ды супольна абсудзіць, — таму, што адзін чалавек ніколі не асягне такой яснасьці і зразуменьня труднай праблемы, якую дае дыскусія.

Тэма ўсходняе і заходняе культуры дый іх уплыву на нашую беларускую ў нас яшчэ зусім не распрацавана. Таму патрэба больш часу, каб тэзы, якія спачатку пакажуцца дзіўнымі, зрабіць відавочнымі. Я абмяжуюся толькі да кароткага перагляду свайго жыцьцёвага шляху дый уплываў Усходу-Захаду на маю асабістую культуру, якая ёсьць даволі тыповай для большасьці беларусаў.

*

*Тэза I-ая:* Існуе не адна, а дзьве агульналюдзкія культуры. Сьведчыць аб гэтым падзел на два блёкі — Усходні і Заходні і падзел у так аднародным, хоць і ўсеагульным зьявішчы, як Хрысьціянства.

*Тэза II-ая:* Усход і Захад падобныя да сябе, як левая рука падобная на правай: яны не пакрываюцца, а супрацьстаўляцца адна другой.

...Рукавічку з левай рукі на правую можна ўзлажыць, толькі вывернуўшы яе. Вось антаганізм між гэтымі культурамі выяўляецца галоўна ў тым, што добрыя староны Заходняе культуры здаюцца няпрыемнымі на Ўсходзе і наадварот. Аднак УСХОД і ЗАХАД нярэдка пераймаюць узаемна нешта карыс-

нае, напр., хрысьціянства Захад прыняў ад Усходу. Але марксызм, які Захад адкінуў, дык Усход прыняў. — Дык вось беларусы павінны ведаць, што будуць у нас даволі моцныя і фанатычныя старонькікі як хрысьціянства, так і марксызму з атэізмам.

*Трэцяя тэза:* Авангардам заходняе культуры ў Эўропе ёсьць Польшча, хоць цэнтрам Захаду лічыцца ўсё яшчэ Францыя. Цэнтрам Усходу лічыцца Індыя, а авангардам зьяўляецца Расея. Беларусь таму зьяўляецца глыбока ўнутрана падзелена гэтымі двума культурнымі ўплывамі. Дык беларускім культурным дзеячам трэба ня толькі ведаць аб гэтым, але распазнаваць прычыны антаганізмаў, каб недапускаць да разладу і канфліктаў, а такжа ліквідаваць іх, калі заіснуюць.

Гэтага пакуль што хопіць, як праграмы для нашых разважаньняў. А дальш пазволю сабе вярнуцца, дзеля спробы, да першага пэрыяду майго жыцьця, да майго хатняга ўзгадаваньня.

## II

## КУЛЬТУРА ЎСХОДУ Й ЗАХАДУ Ў МАІМ ЖЫЦЬЦІ

Нарадзіўся я ў 1906 г., але пачаткам маей сьведамасьці лічу год 1910. Бацькі мае граматныя беларусы: чытаюць і пішуць па польску і па расейску. Польская мова даходзіць да нас праз касьцёл, бо бацькі — каталікі лацінскага абраду. Бацька любіць нават чытаць ці паўтараць з памяці лацінскія літургічныя тэксты, якіх зьмест ведае з польскага перакладу, але робіць пры гэтым сьмешныя памылкі. У хаце пераважаюць польскія кніжкі рэлігійнага зьместу, пераважна апокрыфы, без дазволу царкоўных уладаў, польская Біблія — таксама пратэстанскага выданьня, але ёсьць каталіцкая катахізмоўка і багаты выбар малітоўнікаў і два сьпеўнікі-кантычкі. Аднак бацька вынес з пачаткавай расейскай школы ня толькі знаёмасьць, але і сымпатыю да расейскай літаратуры. Таму заўсёды ёсьць у нас расейскія кніжкі, якія бацька любіць чытаць у голас. І ёсьць томік вершаў Пушкіна з паэмай «Палтава» і повесьцяй «Капітанская дочка». Пад выразным уплывам касьцёла бацькі адносяцца непрыязна да праваслаўнага духавенства. Калі я першы раз захопліваюся прыгожым выглядам праваслаўнае царквы, якая мне больш падабаецца ад барокавага касьцёла, дык бацька выказвае выразнае нездаваленьне. І ад бацькоў я даведаўся, што зайсьці ў царкву будзе грэх, з якога трэба спавядацца і таму да 20-га году жыцьця я ніколі ня быў у царкве! Але гэта ня мела аніякага значэньня ў адносінах да нашых суседзяў праваслаўных беларусаў. У адносінах з імі існаваў ужо тады ледзь ня сучасны экумэнізм. На пахаваньне да праваслаўных мае бацькі хадзілі так сама, як і да каталікоў і там маліліся аж да прыезду бацюшкі, пяючы польскія рэлігійныя песьні і псальмы. Часам сьвятар нават крыху пачакаў, пакуль ня скончылі пачатую малітву. Дый праваслаўныя прыходзілі да каталікоў. Не хадзілі толькі ў касьцёл, бо і іх бацюшка пытаўся пра гэта на споведзі.

Але зусім іншыя былі адносіны ў беларусаў да старавераў-расейцаў, якія былі нашымі суседзямі з двух бакоў. Называлі іх маскалямі, а яны белар. каталікоў — палякамі, а праваслаўных «мардвой». З гэтага відаць, што перасялілі іх да нас з сяньняшняй Мардоўскай рэспублікі і будучы анальфабэтамі, яны нічога ня чулі аб беларусах. Насылаючы іх да нас з мэтай русыфікацыі, расейскі ўрад — на шчасьце для беларусаў — рабіў вялізарную памылку. Яны ня толькі ня мелі аніякага ўплыву ў русыфікацыі беларусаў, але, уважаючы сябе за расейцаў вылучна, пераконвалі нашых праваслаўных беларусаў, што яны зусім не расейцы, хоць русыфікацыя даходзіла да іх праз царкву. І зусім падобна польскія легіёны і асаднікі, калі прыбывалі на Беларусь, пераконвалі нашых каталікоў, што яны самі — не палякі, бо польскія жаўнеры толькі сьмяяліся з тых беларусаў, якія стараліся гаварыць па польску і стацца палякамі, а калечылі ганебна польскую мову . . . Прытым яшчэ палякі паказалі свой адменны характар так яскрава, што беларусы ўбачылі ясна, што яны цалкам людзі чужога народу і складу. Калі аб маскалёх беларусы казалі, што ў іх няма сумленьня, то аб паляках выказваліся яшчэ вастрэй, што ў іх «няма душы!» Сапраўды, гэтыя абодвы кантакты аказаліся для нас вельмі карыснымі ! . . .

На шчасьце, якраз у гэтым часе зьяўляецца ў нас родная літаратура, якая, як зерне знаходзіць для сябе грунт ужо добра прыгатаваны. Праз усе гэтыя 13 гадоў да нас, хоць у нязначных дозах, траплялі беларускія вершы Багушэвіча, Коласа і інш., — «Беларуская Дудка», «Смык», белар. газэты, каляндары . . . Яны адразу ачароўвалі беларусаў, як ясныя праменьні сонца зацьмяваюць штучнае сьвятло, так чужацкая літаратура — польская, расейская — уступалі перад нашай роднай!

Падобнае ўражаньне я мог бачыць у старавераў, калі, зайшоўшы да іх, прачытаў ім на голас адрыўкі з расейскіх кніжак, бо некаму было чытаць. Тады ў іх бачыў я падобнае ўзрушаньне, якое ў нашай сям'і рабіла новая беларуская кніжка.

Стараверы да праваслаўных сьвятароў адносіліся яшчэ больш варожа, чым каталікі, а нашых ксяндзоў баяліся мусіць больш, чым чэрцяў?! Помню такі выпадак: дзьве стараверкі былі ў нас, калі прыехаў ксёндз па калядзе. Пакуль яны зьбіраліся ўцякаць, раптам адчыніліся дзьверы і хутка ўвайшоў у хату ксёндз у аблачэньні і з крапілам, пачынаючы ад парогу сьвянціць хату і ўсіх прысутных. Не маючы куды схавацца, бедныя жанчыны прыцісьнуліся да сьцяны, а малодшая прашаптала да старшай: «Матушка, прысядь-прысядь!» А сьвятар, думаючы, што яны так нахіліліся з набажэнства, пакрапіў іх, не шкадуючы сьвятой вады! Казалі нашыя, што яны, вярнуўшыся да хаты, спалілі вопратку, якая была на іх. І няма дзіва, бо нашыя стараверы былі на Беларусі больш ізаляваныя, чым у Індыі браміны ад парыяў. Жаніліся яны толькі паміж сабою, а на вяселле да іх ніхто з беларусаў не хадзіў. Нат казалі, што трапіць на вяселле да маскалёў так няпрыемна, як на сабачае... Толькі часам адзін-другі маскаль прыходзіў на вяселле да нашых, каб напіцца і сказаць некалька брыдкіх словаў. Яго стараліся напаіць і збыць, баючыся, каб па злосьці не падпаліў, бо і гэта здаралася!

Стараверы былі найбольш безпапоўцы. У іхных сем'ях быў каставы падзел, як у Індыі, а нарушэньне гэтага рабіла чалавека «паганым». Каб не апаганіцца, кажны ў іх меў сваю кружку-кубак, заўсёды накрыты, каб нячысьцік ня скупаўся ў вадзе ці ў квасе. А налівалі кубкі з малітваю. Перш, чым напіцца, кажны адганяў чарта знакам крыжа і зноў хутка накрываў яго з малітвай! Бацькі маглі мець свой асобны кубак, а дзеці — свой, але нікому нельга было піць з чужога кубка — ні бацькам з дзіцячага, ні дзецям з бацькаўскага! Пры стале таксама трываў сьціслы падзел: бацькоў і дзяцей, хлапцоў і дзяўчат — елі з асобнае пасуды.

Толькі ў лазьні мыліся ўсе разам — мужчыны і жанчыны, з чаго беларусы вельмі горшыліся. У вачах беларусаў гэта раўнавала іх са скацінай, якая не адчувае сораму. Часам беларускія дзяўчаты пыталіся ў масковак: «Як гэты вы не баіцеся хадзіць у лазьню з хлапцамі?» А яны адказвалі: «А чаго баяцца? Ты не чапай хлапца, дык і ён не зачэпіць!» Гэтакі звычай пануе яшчэ ў японцаў. Калі беларус прасіў у старавераў напіцца, дык яму давалі з асобнай «паганай» кружкі. Калі-ж да іх у хату заходзіў жыд, дык пасьля яго мылі ўсё: нават клямку, да якой ён дакрануўся, бо ўсё было паганае.

Асобную праблему стваралі адносіны да беларусаў, да якіх стараверы прыходзілі на заработкі. Тады стараліся гадзіцца на сваім хлебе. Але здаралася, што трэ'было сядаць да стала разам з праваслаўнымі ці каталікамі: тады яны, не маючы споведзі, «замалівалі грахі» і сапраўды яны шмат і доўга маліліся, асабліва жанчыны: яны верылі, што можна «замалівацъ» ня толькі свае грахі, але й чужыя! А жанчыны маліліся і за мужчын, б'ючы паклоны з такім размахам, што трэ было падсьцілаць мягкія «падручнікі» — падушачкі, вышытыя з ласкуткоў розных колераў. Дый мелі спэцыяльныя «лестаўкі» — як ражанчыкі, на якіх адлічвалі свае паклоны, бо й была ўстаноўлена «такса» — за які грэх колькі даецца паклонаў. Найбольш дзівіла нашых, што, калі старавер ішоў красьці, дык тады жанчыны замальвалі ў тую ноч ягоныя грахі. Таму беларусы казалі, што стараверы не маюць сумленьня!

Вялізарная мешаніна людзей з розных краёў, асабліва падчас вайны, паказвае значэньне, якое мае нацыянальнасьць: яна лучыць людзей мацней чым рэлігія. Там дзе рэлігія зьлілася з нацыяй, як у Польшчы, народ атрымаў моцную апору ў сваей сьведамасьці і экспансіі. Беларусы каталікі былі найбольшай ахвярай польскага захопніцтва. Не магу надзівіцца, колькі труду пасьвяцілі польскія сьвятары, каб навучыць беларусаў польскіх малітваў і песьняў, якіх наш народ не разумеў і карыстаў зусім ня шмат для сваей душы: паўтаралі на памяць і толькі таго! А бывалі «адважныя» і «разумныя» сьвятары, што высьмейвалі і паніжалі беларускую мову! Яшчэ мае бацькі помнілі такога сьвятара, які ў казаньні сварыўся: «Як вы мувіце? Ані по польску, ані по руску, хыба по д'ябэльску?» А народ прымаў усё гэта цярпліва — аж праваслаўныя рабілі закід: «Чаму вы так слухаеце сваіх сьвятароў?» Хоць і яны падобна слухалі сваіх, больш чым расейцы дый украінцы. І праз царкву ішоў уплыў расейскае культуры на беларусаў, а школа ўплывала і на каталікоў. Помню добра, як знудзіўшыся польскай «чытанкай», я браў у рукі расейскую хрестоматію і зачытываўся у апісаньнях прыроды, жыцьця селян і інш. Ня было радыя-тэлевізіі, дый умеючы чытаць, чалавек жыў у сябе дома, як на эміграцыі: прыходзілі расейскія і польскія газэты і часапісы. Карыстаючы з дзьвюх моваў, чалавек вучыцца і астаецца сабой, бо гэтыя мовы цягнулі кажная ў сваім напрамку. І не магу сказаць, які ўплыў быў больш — расейскі ці польскі. Свой, беларускі быў наймацнейшы, але яго было замала. І я яшчэ аднальково ўважаў сябе за беларуса, за паляка і расейца. Палякам мяне называлі стараверы, калі трапіў у іх хату. («Мама, паляк прышоў!» гаварыла дзяўчынка). Але і бацькі, хоць ужо называлі сябе беларусамі, абыякава давалі мне ў рукі польскую кніжку, з якой я чытаў уголас: «Кто ты естэсь?»

— «Поляк малы!». І мяне ніколі ніхто ў хаце не паправіў і не сказаў: «Які з цябе паляк?»

Гэтыя два ўплывы — расейскі і польскі — ўцягвалі мяне ня толькі ў адвечныя спрэчкі і змаганьне паміж Усходам і Захадам, але ўносілі ў маю душу раздваеньне і такое раздваеньне бачыў я у сваіх бацькоў у сфэры рэлігійнай. Хоць зналі на памяць усю катахізмоўку, іх рэлігійныя паняцьці вельмі розьніліся ад тых, якія я пазнаў пасьле, студыюючы тэалёгію. Напр., яны не адрозьнівалі малых грахоў ад вялікіх. Калі ў нядзелю зламаўся алавік, бацька не адважыўся завастрыць яго, бо яму здавалася вялікім грахом. Ясна, што з такім сумленьнем бацькі бачылі навокал сябе толькі грэх. А яны страшэнна баяліся грэху і мяне навучылі баяцца, аднак самі не знаходзілі спосабу, каб яго ўсьцерагчыся, што мяне прыводзіла проста да роспачы: мне часта здавалася, што можна было яшчэ ўсьцерагчыся, а бацькі там ужо капітулявалі — аж хацелася крычаць: «Чаму вы гэта робіце?» — «гэта-ж грэх!». І яны напэўна пацьвердзілі-б: «Так, сынок, гэта грэх!» але не папраўіліся-б, бо ўсё, што мы робім, ёсьць грэх . . . Адсюль мы жылі ў атмасфэры зусім не каталіцкага пэсымізму. А праваслаўнай асцэтычнай літаратуры ў нас ня было. І толькі пазьней, спаткаўшыся ў Харбіне з расейцамі, я праканаўся, што вынес з бацькаўскага дому чыста ўсходняе сумленьне і тады мне прышла думка, што мае пра-пра-прадзеды мусіць былі праваслаўнымі і пасьля уніятамі, а праз унію, як яе скасаваў цар Мікалай І-ы ў 1839 г., дайшлі да лацінскага абраду.

І мае бацькі не адрозьнівалі догмату ад абраду: абрад ставілі заўсёды на першым месцы, тады як догматамі мала цікавіліся. Не зважаючы на выясьненьні каталіцкіх сьвятароў і на катахізмы, бацькі разумелі ўсё па ўсходняму: пост, як паўстрыманьне ад скаромнага, а і малако ўважалася за скаромнае! Як і мяса і нам малым ніколі не давалі ў Вялікім Посьце малака. Ніякія тлумачэньні, што ў пастох пазваляецца нават тлушч, толькі без скварак, не памагала! А калі аб гэтым чыталі ў кніжках, дык з гэтага толькі сьмяяліся. Але затое, што ў посьце можна толькі раз наесьціся дасыта, аб тым нават не гаварылі: нараз аб гэтым чулі, дый ня прыймалі да ведама і зусім гэтага ня лічылі грахом, веручы толькі ў прыняты звычай.

І сьвятары заўсёды прыпаміналі аб тым, што Касьцёл можа звальняць ад посту — дыспэнсаваць і тады граху ня будзе, аднак і гэта ня прыймалася да ведама і такой дыспэнсы ня пыталі і не прасілі. А вось, будучы ў Польшчы, я спаткаўся з іншым, адваротным зьявішчам у праваслаўных. Там праваслаўныя — пад уплывам заходняга духу — зьвярталіся да сьвятароў з просьбай — пазволіць ім у пост есьці з малаком, бо баяліся саграшыць і тут сам сьвятар быў у клопаце, ня ведаючы, ці можа ён на гэта пазволіць? Ён ведаў, што грахі адпускаць можа, але дыспэнсаваць на Усходзе ня было звычаю, дык часамі сьвятары адказвалі: «Што-ж? посьле паспавядаешся ! . . .» — Бачым, якія труднасьці вяжуцца ў Беларусі з уплывамі Усходу і Захаду на рэлігію!

## *З царкоўнага жыцьця*

У справе адзінства між Каталіцкай і Праваслаўнай Царквой — размова з кардыналам Віллебрансам (з грэцкага часапісу «Элефторос Космос») — у сэкрэтарыяце Адзінства Веры — у Ватыкане:

1) Адносна прыгатаваньня ў абедзьвюх Царквах кардынал сказаў, што адбываюцца студыі — паралельна і вельмі паважна — па лініі унутранага іх аднаўленьня: Каталіцкая Царква ўвайшла на гэты шлях праз апошні Сабор Ватыканскі ІІ-гі. Вядзецца рэформа сьв. Літургіі, а таксама выхаваньне маладога духавенства ў экумэнічным духу. Прытым уводзіцца калегіяльнасьць у кіраўніцтве Царквой. Праводзіцца грунтоўная праца ў рэформе царкоўных законаў — новы кодэкс права, студыі Сьвятога Пісьма і аднаўленьне агульнага хрысьціянскага жыцьця.

Праваслаўная Царква таксама рыхтавалася да аднаўленьня. На 1972 г. назначаны іхні сусьветны Сынод. Кардынал Віллебранс уважае, што узмоцніўся уплыў Сьвятога Духа ў гэтай агульнай супрацы да адзінства. Праваслаўныя і каталікі пачалі лепш адчуваць і разумець патрэбу злучэньня, бо дзьве Царквы, якія жывуць верай у аднаго Хрыста-Збавіцеля, ня могуць трываць у разрыве і нязгодзе. Гэта-ж вытварае згаршэньне між хрысьціянамі і нехрысьціянамі, калі моляцца і маюць тыя самыя тайны — (праваслаўныя і каталікі), — але ня прызнаюць сябе людзьмі аднае веры!

І яшчэ праваслаўныя ставяць закід, што Каталіцкая Царква творыць так званую «унію» дый кажуць, што ўласна «унія» найбольш перашкаджае адзінству і лучнасьці.

Кардынал Віллебранс на гэта адказаў, што «унія» ня ёсьць перашкодай, але дае больш матываў да злучэньня. Пакуль няма злучэньня, Каталіцкая Царква не мае права адпіхаць тых, якія да яе зьвяртаюцца дый просяць прыняць іх у лучнасьць — ці гэта былі-б адзінкі ці цэлыя групы... Значыць, гэта ня ёсьць напасьць ці інтрыга Каталіцкае Царквы, але абавязак прыймаць усіх, хто просіць злучэньня. І гэта ёсьць вынік ненармальнай сытуацыі — разлучэньня аднае Царквё, якое наступіла ў 1054 годзе.

Калі наступіць поўнае злучэньне Каталіцкае і Праваслаўнае Царквы, тады «унія» зьнікне сама сабой: злучыцца з праваслаўнымі і ўвойдзе ў паслушэнства праваслаўным Патрыярхам — у аднэй веры і ў адным абрадзе.

Было пытаньне, ці злучэньне будзе дакарана самымі Галовамі Цэркваў, ці мо' Саборам ці інш. спосабам?

Кардынал казаў, што ўсе бяруць удзел у прыгатаваньні да гэтага важнага мамэнту і гэта будзе супольнасьць духоўных і сьвецкіх вернікаў. Да гэтага вядзе унутраннае адраджэньне абедзьвюх Цэркаў і шырокі дыялёг, каб раскрыць стара-хрысьціянскія традыцыі і пазнаць, чаго Бог вымагае праз цяперашнія «знакі часу»...

*

## ГОД МІЖНАРОДНАГА ВЫХАВАНЬНЯ

«ЮНЭСКО» абвесьціла 1971 г. годам Міжнароднага Выхаваньня. З гэтае нагоды Апостальскі Пасад выслаў да гэтае Інстытуцыі пісьмо такога зьместу:

1) Выхаваньне мае вялікае значэньне для чалавецтва. Кажнае маладое пакаленьне мусіць быць уведзена старым пакаленьнем у жыцьцё грамадзкае і культурнае. Інакш малады чалавек астанецца ізаляваным і ня будзе мець магчымасьці поўнага разьвіцьця. Пачатак выхаваньня лучыцца з пачаткам чалавецтва. Добра сказаў адзін вучоны, што з нараджэньнем кажнага чалавека прыходзіць на сьвет або сьвяты, або нягоднік, залежна, як ім пакіруюць выхаваўцы змалку.

У цяперашнім часе мае значэньне належнае выхаваньне, калі бачыцца гэтулькі моладзі збунтаванай, нездаволенай, якая сама ня ведае, чаго хоча! А ў краях недаразьвітых нямала моладзі марнуецца з прычыны браку сродкаў адукацыі.

2) Выхаваньне гуманістычнае.

Трэ выхоўваць маладога чалавека ўва усіх ягоных людзкіх вартасьцях — душы і цела. Ведамы францускі філязоф Бэргсон казаў: «Разьвіцьцё цела патрабуе дапаўненьня з боку душы: тое, што ёсьць мэханічнае, вымагае таго, што ёсьць містычнае». — Гэта вялікая праўда! Цяпер якраз бачым вялізарную дыспрапорцыю між духовай і тэхнічнай культурай. Над чалавекам зацяжыла прагноза, што яго можа зьнішчыць твор ягонай уласнай тэхнікі, калі ня будзе падпарадкаваны вымогам духу.

Таксама і разьвіцьцё духовых уладаў павінна быць гарманійнае. Трэба вучыць чалавека адрозьніваць вартасьці адны ад другіх: фальшывыя ад сапраўдных, менш важныя ад важнейшых і ацэньваць іх паводле іх вартасьці для жыцьця і сапраўднага шчасьця. І жыцьцё павінна разьвівацца бязупынна: у выхаваньні трэба паказаць, што чалавек павінен заўсёды разьвівацца духова — выхоўваць самога сябе: трэба «умець вучыцца».

3) Чалавек сам сабе ня ёсьць дастатковым.

Падставовыя магчымасьці разьвіцьця чалавека знайходзяцца вонках чалавека: самі ў сабе мы не знайходзім поўнае праўды адносна нашага жыцьця і нам не хапае сілы, як перамагчы слабасьці. А гэта ўсё ёсьць у Бога. Дык вось тут неабходна Хрыстовая Царква, якая ўсьцяж прыпамінае пра гэта і зьвязвае чалавека з Богам. Толькі вера ў Бога і супраца з Божай ласкай лучыць у чалавеку сілы натуральныя з вышпрыроднымі: вера дае магчымасьць сапраўднага і проста бязьмежнага разьвіцьця! Бог ня ёсьць сілай праціўнай — не перашкодзіць у шчасьці, але заклікае і памагае падпарадкаваць сілы прыроды для карысьці кажнага чалавека. Праз гэта і Бог атрымлівае сваю хвалу. Аднаго толькі Бог дамагаецца, каб чалавек быў паслушны Божаму праву, якое яго сьцеражэ ад памылак, грахоў і загубы.

4) Роля сям'і ў выхаваньні.

Розныя інстытуцыі выхоўваюць чалавека, асабліва дзяржава і Царква. Але найважнейшай ад усіх ёсьць сям'я, як першая і натуральная установа. Бацькі адказваюць за сваіх дзяцей перад Богам і перад людзьмі. Яны маюць першае права да сваіх дзяцей, а іншыя установы мусяць ім памагаць у выхаваньні. І тут павінна быць узгоднена супраца, абаснаваная на праве натуральным і Божым, для дабра дзяцей і ўсяго чалавецтва.

*

## СУДЫ НАД БІСКУПАМІ

У пачатку т. г. у Камэруне ўрад засудзіў на сьмерць біскупа Альбэрта Ндоугмо разам з некаторымі іншымі асобамі — нібыто за удзел у плянаваньні перавароту. Пасьля ў выніку інтэрвэнцыі Папы, замянілі біскупу кару на пажыцьцёвую турму.

Таксама ў Гвінэі быў засуджаны на пажыцьцёвую вязьніцу арцыбіскуп Тхідімбо з Конакры за акцыю супраць ураду. Ясная справа, што ня было сапраўднай віны, але хапіла прэтэксту, каб даць ураду нагоду адсунуць ад людзей больш актыўных і ўплывовых біскупаў.

*

## РЭФЭРЭНДУМ У СПРАВЕ РАЗВОДАЎ

Як ведама, у Італіі парлямант нядаўна ўвёў пастанову, якая дазваляе разводы. Супраць гэтага пратэставаў Папа і італьянскія біскупы. Каталікі-вернікі хочуць дамагчыся рэфэрэндумплебісцыту, каб гэты закон, нязгодны з Божым правам, скасаваць. Патрэба сабраць паўмільёна падпісаў, каб рэфэрэндум мог адбыцца. Камуністы паднялі крык, што духавенства хоча давесьці да рэлігійнае вайны. Аднак Царква дамагаецца поўнае свабоды, каб людзі маглі выказаць сваю волю без перашкоды: тады ніякае вайны ня будзе, калі ўсё адбудзецца легальнай дарогай.

*

## ЗЬМЯНШАЕЦЦА ЛІК СЬВЯТАРОЎ

Заўважана, што ў цэлым сьвеце каталіцкім зьмяншаецца лік сьвятароў і штогод адступае ад сьвятарства ўсё больш адзінак: разам усіх ад 1964 г. адступіла 22 тысячы асобаў. Гэтая зьява датычыць і іншых цэркваў і сьведчыць аб крызысе веры. Праўда, на 433 тысячы сьвятароў лік адступнікаў ня ёсьць лішне вялікім, аднакжа страта зьяўляецца немалая! Прытым страта закранае ня толькі тых самых сьвятароў, але яна выклікае неспакой і згаршэньне ў ва ўсей Царкве дый нястача сьвятароў праяўляецца яшчэ і ў тым, што з кажным годам лік каталікоў павялічваецца на 10 мільёнаў!

*

## АРЦЫБІСКУП КАЗАРОЛІ Ў МАСКВЕ

У канцы лютага г. г. быў у Маскве арц. Казаролі, які пераважна вядзе перамовы Ватыкану з камуністычнымі ўрадамі, каб магчыма уладзіць жыцьцё каталікоў у тых краінах. Казаролі меў назначэньне падпісаць ад імя Апостальскага Пасаду міжнародны дагавор аб абмежаваньні атомнага збраеньня на сьвеце.

Пры гэтай аказіі Каразолі меў некалькі паважных спатканьняў у справах рэлігійных з прадстаўнікамі савецкае ўлады, як Грамыка, Козыраў, Караедаў; гэты апошні — прадстаўнік у справах рэлігіі. А найбольш прыгнечана Каталіцкая Царква ў Беларусі і бальшавікі нагул імкнуцца да поўнае ліквідацыі рэлігіі ў Беларусі, дзе няма ані каталіцкага біскупа, ані духоўнае сэмінарыі і асталося каля 70 сьвятароў пераважна старых і чужынцаў. Савецкія верхаводы якраз аб Беларусі найменш згаджаюцца гаварыць!

Арц. Казаролі ўсё-ж ёсьць добрай думкі, што паказалася яму атмасфэра лепшая і дасюлешні маналёг пераходзіць у дыялёг, а што тая старана ўважае Апостальскі Пасад за дзейнік карысны для супакою ў сьвеце. Саветы ўжо перасталі ўжываць словы вострыя ў адносінах з Ватыканом і стараюцца гаварыць па людзку.

*

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА Ў ПОЛЬШЧЫ

Новы ўрад, пад кіраўніцтвам Герэка, пачаў гаварыць з кардыналам Вышынскім і маніцца зьмяніць адносіны, зьмягчыць рэжым. Тымчасам ад абяцанак да справы ня пераходзіцца, але абяцаньні далей пацьвярджаюцца і паўтараюцца...

*

## 40 ГОД ВАТЫКАНСКАГА РАДЫЁ

Сёлета Ватыканскае Радыё сьвяткуе 40 год існаваньня. Папа падзякаваў усім працаўнікам Радыё і ўспомніў Папу Пія XI — заснавальніка Радыё дый Вільгэльма Марконі — вялікага вучонага і будаўніка Радыё. У Радыё працуе каля 500 асобаў — абслугі і ўдзельнікаў перадачаў.

Ватыканскае Радыё надае перадачы рэлігійнага зьместу і інфармуе аб жыцьці Царквы на шматлікіх мовах, між іншымі і на беларускай. Голас яго даходзіць і да нашага краю і да ўсіх куткоў сьвету. На беларускай мове перадачы адбываюцца кажнай нядзелі і ў панядзелак, сераду і пятніцу ў гадз. 19,5 эўрапэйскага часу — у 21 м. 5 — на Беларусі — на хвалях 31,15; 41,92; 48,90 у гадз. 7, 15 эўрапэйскага часу, — 9,15 на Беларусі. У нядзелю казаньне — на хвалях 31,10; 25,55.

Галоўным кіраўніком беларускай сэкцыі ёсьць Архімандрыт Леў Гарошка.

У прамове Павал VI падкрэсьліў, што праз Радыё Царква можа спаўняць сваё апостальства, паручанае ёй Хрыстом. Так спаўняецца Хрыстовы загад: «Што Я вам кажу ў цемры, апавядайце ў сьвятле і што пачуеце на вуха, разгалашайце на дахах» (Ма. 10, 27). Значыць, што калісь Хрыстос гаварыў у маленькіх мясьцінах і ў гуртку апосталаў, тое цяпер разносіцца з вышынь радыёвых вежаў на ўвесь сьвет! Бачым, што Царква ня ёсьць праціўная тэхнічнаму поступу і прагрэсу. І кажны вынаход Царква радасна прыймае як Божае дабрадзейства, бо трэба выкарыстоўваць тэхніку ня толькі для матар'яльнае карысьці, але і на Божую хвалу, асабліва прапаведваць Божае слова.

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 9 лютага ў Лёндане ў памешканьні Таварыства антыквараў а. А. Надсон прачытаў па ангельску лекцыю на тэму: «Пісьменнасьць беларускіх татар арабскім пісьмом». Матарыялам для лекцыі паслужылі галоўным чынам новазнойдзеныя беларускія татарскія рукапісы, якія знаходзяцца ў Брытанскім музэі і ў Беларускай бібліятэцы ім. Ф. Скарыны ў Лёндане.

У аўторак 9 сакавіка а. А. Надсон меў другую лекцыю на тэму: «Адлюстраваньне некаторых фанэтычных асаблівасьцяў жывой беларускай мовы ў пісьмовых помніках XVI—XVII стагоддзяў».

Лекцыі былі часткаю праграмы пятага курсу беларусаведы, наладжанага Ангельска-Беларускім Таварыствам.

### БЕЛАРУСКАЯ ПОШТА

У часе доўгай забастоўкі ангельскіх паштовых работнікаў Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі атрымала ад брытанскага міністэрства сувязяў дазвол на арганізацыю прыватнай пошты. Пошта працавала ад 18 лютага да 10 сакавіка і ў гэтым часе з яе трох лёнданскіх установаў былі высланы сотні лістоў, ня толькі мясцовых, але ў розныя гарады Англіі (Брадфард, Манчэстар, Бірмігам, Оксфард) і нават заграніцу. Былі выпушчаны дзьве сэрыі марак, усе з беларускім напісам «ЗБВБ ПОШТА». Першая сэрыя складалася з двух марак вартасьцю ў 10 і 20 пэнсаў, без ніякіх рысункаў. Другая сэрыя, «Архітэктурныя помнікі Беларусі», складалася з пяці марак вартасьцю ў 1, 5, 10, 15 і 20 пэнсаў. Паколькі пошта ЗБВБ працавала з дазволу міністэрства, яе маркі зьяўляюцца афіцыяльна прызнанымі і сёньня прадстаўляюць вялікую цікавасьць для філятэлістаў.

ЗБВБ передала ўсе дакуманты адносна Пошты ў Беларускую бібліятэку і Музэй ім. Ф. Скарыны. Бібліятэка мае таксама невялікую колькасьць неўжываных камплетаў другой сэрыі марак. Цана аднаго камплету была 2 фунты. Даход з прадажы марак прызначаны на фонд Бібліятэкі. Тыя, якія жадаюць купіць маркі, павінны пісаць на адрас:

The Deputy Librarian, The Francis Skaryna Byelorussian Library, 37 Holden Road, London N. 12.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА

У нядзелю 21 сакавіка Лёнданскі Аддзел ЗБВБ ладзіў у Школе сьв. Кірыла Тураўскага сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР.

У суботу 27 сакавіка сьвяткаваньне адбылося ў Беларускім Клюбе ў Брадфардзе з удзелам шматлікіх беларусаў і гасьцей — чужынцаў, сярод якіх былі сябры ангельскага парляманту.

### ВАТЫКАНСКАЕ РАДЫЁ

Ад пачатку гэтага году а. архімандрыт Л. Гарошка пераняў кіраўніцтва беларускай сэкцыяй Ватыканскага радыя ад а. пралата Пятра Татарыновіча, які адышоў на пэнсію пасьля дваццацігадовай працы.

Рэдакцыя «Божым шляхам» жадае а. архімандрыту Гарошку, які праз дзесяць гадоў быў рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане, посьпехаў ў ягонай новай працы.



У РУБРЫЦЫ «ХРОНІКІ БЯГУЧЫХ ПАДЗЕЯЎ» № 16, 22. I. 1971, ёсьць такая вестка з Беларусі:

— У канцы кастрычніка 1970 г. у вёсцы Зарэчанка Гродненскай вобласці Беларускай ССР, (вёска належыць да калгасу імя Суворава), на загад мясцовых уладаў, быў закрыты касьцёл. Яго пературарылі ў склад збожжа, царкоўныя рэчы вывезьлі.

Калгасьнікі заявілі, што «Без касьцёлу жыць ня могуць» і на працягу трох дзён на працу ня выходзілі, а іхныя дзеці не наведвалі школу. Кароў даілі настаўнікі. Студэнты, якіх прыслалі з Гродна на дапамогу калгасу, ад працы адмовіліся.

Старшыня Аблвыканкому Малочка прымушаны быў даць загад ачысьціць касьцёл ад збожжа, вярнуць у касьцёл царкоўную маемасьць і адрамантаваць пашкоджаны будынак, а вінаватых за закрыцьцё касьцёлу пакараць. — (Радыё «Свабода», № 6089).

*

ГАЛАВА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ на Чужыне узьвёў Епіскапа Андрэя да Архіпастырскага дастаенства. Аксіос!...

І прызначыў Архіеп. Андрэя сакратаром Кансысторыі БАПЦарквы, да выкананьня функцыяў, якія былі ўзложаны на архіеп. Васіля.

Назначэньне падпісаў 28 ліпеня 1970 г. Архіепіскап Сергій.

*

Кіравецтва Епархіі на ЗША й Канаду Пераняў Епіскап Андрэй, а Уладыка Мікалай стаў апякуном Парафіі й Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. У дапамогу яму прызначаецца нова-пасьвячаны а. Карп Стар.

Пастаноўлена ў далейшым выдаваць «Голас Царквы». Рэдакцыйная Калегія: М. Міцкевіч, П. Манькоўскі, Я. Запруднік, М. Гарошка і М. Тулейка.

(З «Голасу Царквы», № 32, 1970).

*

АБ АЎТОКЕФАЛІІ Расейскай Правасл. Царквы ў Амэрыцы: Патрыярх Канстантынопольскі Атэнагор выступіў катэгорычна супроць яе і супроць Маскоўскае Патрыярхіі, якая прызнала тую аўтокефалію. І супраць гэтага выступілі: царква Баўгарская, Грэцкая, Мітраполія Расейская Зарубежная і інш.

Сабор Епіскапаў БАПЦарквы 27. III 1970 таксама заняў нэгатыўнае становішча да аўтокефаліі Амэрыканскай Правасл. Царквы, атрыманай ад Маскоўскай Патрыярхіі — дзеля яе неканан²чнасьці...

(З «Голасу Царквы», № 32, 1970 — Нью Ёрк).

## З лістоў у рэдакцыю

ПОЛЬШЧА — ЧЭНСТАХОВА

Беларускі хрысьціянскі прывет: «Пахвалёны Езус Хрыстус!» І ад сябе жадаю, каб гэтае Імя, якое мы славім, было Табе, Дарагі Айце-Суродзіч, памоцным у працы на Божай Ніве і навечнай нагародай у Доме Нябеснага АЙЦА!

Кажнага дня ў гэтым горадзе Марыі (Чэнстахове) я дзякую Богу, што зьлітаваўся над нашым родным прышчэпам і даў сваіх выбранцаў для нашага народу. Прашу Божае Міласэрдзе, каб гэтая Родная Герархія вырасла з «малога гарчычнага зярняці» і замянілася ў магутнае дрэва, пад якім наш народ мог-бы супачыць у сваіх граніцах... Я вельмі цешуся, што на гэтулькіх месцах існуе нашая мова і жыве беларускі чалавек. Чытаў я ліст Біскупа (Сіповіча), што меў візытацыю ў працягу 4-х месяцаў па ўсіх кутках сьвету. Запамятаў я тыя краі і маліўся за сваіх людзей, а нашаму Пастыру, каб даў Бог здароўе душы і цела. Дзякую Богу, што за майго жыцьця яшчэ я магу ў часе сьвятой Літургіі паручаць ласцы Божай свайго Біскупа і родную Герархію. Нашыя продкі такога шчасьця ня мелі... Дай, Божа, каб прыйшоў час і каб мы ўсе былі злучаны ў «аднэй аўчарні» і ў роднай мове! бо ўжо прыйшла пара адступіць ад мовы пазычанай... (І да рэдактара)... Прыймі мяне ласкава ў лік тваіх прыяцеляў! Прашу, паводле магчымасьці, кіраваць да мяне сваю карэспандэнцыю. Паведамляю, што я меў пазычаныя мне кніжачкі: «Голас душы» і малітаўнік «Божым Шляхам», але ўжо іх не маю. Трапілі тыя зярняткі да маей душы — ня мала малітваў і песьняў: я ўвёў іх у штодзённае жыцьцё. І вельмі хацеў-бы зноў іх дастаць: можа-бы Вы іх прыслалі?...

Ваш пакорны слуга
Вінцук Чэркас.

*

АМЭРЫКА-Сіракузы: Глыбокапаважаны а. Рэдактар!

З удзячнасьцяй пацьвярджаю атрыманьне № 6 «БШляхам» за мінулы год. — Я ўважаю, што артыкул («Плятон») др. Т. Падзявы зьяўляецца першарадным і яго трэба толькі вітаць, і спадзяюся ня будзе ён апошнім. На падставе гістарычных назіраньняў можна вывесьці абагульненьне ў тым сэнсе, што народы, інтэлігенцыя, якіх падтрымлівае публічную дыскусію на важныя тэмы, — гэта переважна народы прагрэсыўныя. І, наадварот — там, дзе дыялёг сярод перадавых людзей дадзенага народу, «змоўк, занямеў» — гэта прыкметы адсталасьці і агульнага заняпаду. — Зламаньне маўчаньня др.

Падзяваю — ўважаю за вялікае асягненьне, якое вітаю.

На гэтым месцы хацеў-бы падзякаваць Вам за запросіны з мае стараны на бачынах «БШляхам» у вадказе на некаторыя маманты артыкулу др. Падзявы — «Плятон» . . .

Прымеце словы пашаны
Ян Пятроўскі, Пастар.

*

АЎСТРАЛІЯ: Сіднэй: Пры гэтым лісьце перасылаю Вам на «Божым Шляхам» — на падпіску $ 10.00 (дзесяць) і $ 10 — на кляштар, які калісь дапамог мне здабыць асьвету. — Я ніколі не забудуся, як у 1927 на вясну я ня мог аплаціць гімназіі і а. дырэктар загадаў мне проста вынесьціся! Быў я ў стане поўнага шоку і толькі а. Гэрмановіч, прыпадкова, спаткаўшы мяне, падтрымаў на духу і прыабяцаў падтрымку і зьмену загаду супэрыёра. Я сядзеў дзень у хаце, чытаў і не варушыўся, а пасьля паведамілі мяне, што магу хадзіць на лекцыі. — Пасьля брат падаслаў мне даляраў і я заплаціў залегласьць у суме 140 злотых. — Наступна а. Язэп зарэкамандаваў да мяне многа вучняў, якіх я шыкаваў да IV клясы і ў адным пэрыядзе я меў іх аж 8! Так што, успамінаючы добрае, стараюся добрым плаціць і помніць аб добрым сэрцы а. Язэпа. Хай жыве здаровы шмат за 80 гадоў!

Помнячы аб Вас др. Я. Малецкі.

*

КАНАДА-Кобург: Слава Ісусу Хрысту!

Вельмі Паважаны а. Гэрмановіч! Атрымаў ад Вас дзьве кніжкі і за іх вельмі ўдзячны. Я праходзіў блізка Вас на Далёкім Усходзе: быў блізка гор. Чыты ў 1942 дый думаў, што ўжо ніколі не давядзецца спаткаць наагул беларусаў. Як выехаў у Палестыну, то дастаў першы малітаўнік а. Гарошкі і а. Сіповіча: быў я рады, што беларускія сьвятары асталіся жывыя! Жадаю Вам добрага здароўя і ўсім нашым Бсьвятаром і беларусам, якія працуюць для Беларусі і беларускага народу. Высылаю Вам 3 даляры, як Вы пісалі.

З пашанай да Вас Н. П-к.

*

АЎСТРАЛІЯ-АЛЬБАНЫ: 30 гадоў пчалярую і не здаралася спракудзіцца. А вось паехалі мы даставаць мёд дый я ўзяў — апырскаў рукі вадкасьцяй, што шпрыцуюць мухаў, лічыў, што ня будуць джаліць, як панюхаюць атруту. Ажно вышла, што ледзь сам ня згінуў! Як накінуліся на мяне пчолы — сотнямі, што ня было ратунку: уцёк стуль, але рукі пачала хапаць сутарга, жылы набрынялі, сэрца білася з перабоем . . . Добра, што сусед завёз зараз да шпіталя: там далі два ўколы супраць атручэньня крыві. Два дні я хадзіў, як п'яны, блытаўся язык і амаль тыдзень прайшоў, пакуль я стаў нармальным чалавекам . . .

А некалькі дзён перад гэтым мой сын акалечыў на рабоце левую руку на локцевым перагібе: вырвала яму немалы кусок вены. Самалётам завезьлі яго ў горад Пэрт, дзе прабыў чатыры тыдні: меў тры апэрацыі, уставілі кавалак пашкоджанай вены. Дзякаваць Богу не астаўся калекай. Цяпер ужо дома, але рука ня згінаецца. Доктар аднак кажа, што паправіцца: кажны дзень ходзіць на масаж.

Праўду кажуць, што бяда адна ня ходзіць, бо і жонка мела апэрацыю на правай руцэ . . . — Вось ужо іх двое — інваліды, а я адзін здаровы! Кажны дзень хаджу на работу; а дома прыбіраю хату, вару ежу, мыю бялізну і кармлю курэй . . . Значыць, у сына — левая, у жонкі — правая, а ў мяне — абедзьве; але я — гаспадар, дык мушу ўсё рабіць сам! — Палажэньне, хоць ты павесься ! . . .

Толькі-ж няма часу, бо трэ' ліст пісаць у рэдакцыю. Аставайцеся здаровенькія: жадаю ўсяго найлепшага.

К. Чабатар

*

ШВЭЦЫЯ: Беларуская Грамада ў Скандынавіі вітае Вас асабіста і блізкіх Вам Сяброў-Беларусаў з беларускім нацыянальным сьвятам: з днём 25 Сакавіка — 53-ай гадавінай абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі і шле сардэчныя пажаданьні вярнуцца дамоў на Бацькаўшчьну ў найбліжэйшым часе.

За Управу: Язэп Фелярчук.
Стакгольм, 22 сакавіка, 1971 года.

*

ЧЫКАГО: Чамусь «Божым Шляхам» я атрымліваю на два-тры тыдні пазьней ад другіх! А № 5-ы падае, што ёсьць у Амэрыцы такія бядоты, што нат' ня маюць цэнтаў, каб купіць паштовых . . . З Аўстраліі нат' ён піша, што там «нэндза, бо такія пяскі, што аж страх!»

Хіба-ж самі ведаеце, што Аўстралія мала меншая ад Эўропы. Я жыў блізу восем гадоў у Аўстраліі і там, дзе жыў, у Квіслэнд, зусім няма пяскоў, а грунт цяжкі, блізу чарназём. Некаторыя штаты большыя чым многія дзяржавы заходняе Эўропы. Але вось у нас бяда, бо многія нашы эміграанты гутараць з сваімі дзецьмі толькі па ангельску; калі так будзе трываць далей, дык хутка ня будзе каму чытаць беларускую прэсу. Належала-б Вам у «Божым Шляхам» аб гэтым патурбавацца і пісаць ! . . .

Жадаем Вам добрага здароўя і ўсяго добрага!

Ян Чарнэцкі.

# Ноч Старога 1970 і пад Новы 1971 год

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што няма большай пакуты, чым чакаць, пакуль жонка зьбярэцца ў госьці. Мужчыны зьбіраюцца ў момант: хуценька апранешся, прыгладзіш лысіну й гатоў! Дый стаіш сабе малайцом, але... зьнемагаеш, пакуль баба падфарбуецца, перабярэ гару сукенак, а пасьля яшчэ возьме іголку з ніткай.

— Ну, калі ты — нарэшце? мы-ж спозьнімся!

— Пасьпееш з козамі на торг — не гарыць!... — Спакойна адказвае яна, дый дзесяты раз чапурыць прычоску, усё стоячы прад люстэркам.

— І які гэта вар'ят яго прыдумаў? — кажу я. Дый, здаецца, што люстэрка дзеля вас і выдумана было?

— А вы дык сьвятыя? І ты-ж глядзіш у яго, як голішся...

Значыць, увесь бадзёры настрой псуецца. Але-ж нічога! Настрой падыймаецца, бо ўжо мы едзем... І едзем да Маразоў — (у гарачыню!) — спатыкаць Новы Год.

У Пэрт — дарога далёкая — аж трыста міль! Паабапал дарогі рыжыя, сонцам выпаленыя палі, па якіх стадамі швэндаюцца, падыймаючы воблакі рыжага пылу, авечкі, ад чаго рыжыя і яны самі.

Гэта ня тое, што на нашай дарагой Бацькаўшчыне. Там цяпер сьнег іскрыцца навокал, марозік кусае за нос, за вушы; а ты сабе сядзіш у разваліньках, ахутаны кажухом. А конь бяжыць шпарка, пускаючы струменьчыкі пары з носу. Камочкі сьнегу пырскаюць з пад капытоў — аж трапляюць табе ў нос!...

А тут у Аўстраліі на Каляды шугаюць бяздушныя машыны па запыленых дарогах: абмінаюць нас, абганяем мы іншых, сустракаюць нас, а мы — другіх: гэта аўстралійцы, як і мы, едуць у госьці...

Нас гасьцінна спатыкаюць Марозы: вітаемся, віншуемся... А мужчыны ўваходзяць у хату: дзівімся на штучную ялінку. А жанчыны ізноўжа да тых праклятых люстэркаў! Ну, пакуль яны прыхарошваюцца, мы хоць крыху хочам прахаладацца півам, бо прыпякае ні на жарт — аж сто шэсьць Фарэнгайта, значыць, сорак тры Цэльса! (І гаспадар «Мароз» абліваецца гарачым потам!).

Дзесяць гадзін: стол аж ломіцца ад усялякіх страваў — гарачых, халодных і нямаведама якіх! — закусак і прысмакаў, што вабяць і клічуць! — Мужчыны, ужо крыху «падчумачаны», сьпяваюць вайсковыя песьні; а жанчыны — гаротніцы ў кухні, дзе гарачыня і духмянасьць аж займае дух ад смачных пахаў!

Аматары рыбнага спорту вядуць сур'ёзную гутарку.

— Значыць, закінуў я вуду — дзяўбанула! Я — цягну; а яна як падскочыць мэтры на два, дый ізноў у хвалю; а хваля як гумно вялізная ды так валіць на бераг, што вось-вось і мяне накрые!... І адарвалася рыбіна, хоць ты ўтапіся! — ласось фунтаў з дваццаць...

— Ну, гэта што? Вось у мяне была акула, што бервяно — семдзесят фунтаў! Парэзаў лёскай усе пальцы і амаль не ўцягнула ў мора і... сарвалася.

А ў жанчын таксама паважныя гутаркі пра міні-спадніцы, пра марынаваньне агуркоў, абрыкосаў ды інш. новым спосабам.

Дзеці сядзяць як прывязаныя, ля тэлевізара: руплівыя маці праганяюць іх ад тэле, «каб не псавалі вачэй!» Дзеці ўважна слухаюць, што



*Бабулькі з Пастаўшчыны пасылаюць прывітаньне суродзічам-эмігрантам, кажучы: «Як настане свабода, хуценька вертайцеся на Бацькаўшчыну!»*

маці гамоніць, але робяць сваё, а прытым аб'ядаюцца шакаладкамі.

Але час не стаіць на месцы і даходзіць поўнач. Дзякуючы кулінарнаму таленту жанчын і выдатным талентам маей жонкі і самаадданай дапамозе гаспадара, падрыхтоўка скончана. I вось гаспадар Мароз дастае з халадзільніка бутэлькі шампанскага.

— Сядайце, дарагія госьцікі!

Разглядаем салаты-марынаты і ўсё такое. Гаспадар налівае: — Найперш вып'ем — разьвітаемся са Старым Годам!

— . . . каб ня крыўдзіўся . . . —

А на вуліцы цяпер поўная цішына: рэдка дзе ўбачыце цёмныя вокны. Усюды селі за сталы цэлымі сем'ямі або групамі, так як і мы. Усюды падымаюць тосты за добры Стары Год і за мінулую радасьць.

— . . . і мне ён быў шчасьлівы, і мне . . .

— Мы тут, на чужыне, не маем ніякага страху, а як там, на Бацькаўшчыне?

— Паслухайце, што піша мне стуль брат: « . . . сусед просіць перадаць табе масу самых найлепшых пажаданьняў у тваім жыцьці, аднак пісьмаў ім болей ня пісаць, а таксама і мне ! . . .»

А мне вельмі шкада брата: ён шмат мне пісаў цікавых лістоў. Пра сквэрык, што ён успамінае, дык ведаеце — мы там паставілі крыж. Цяпер яго збурылі і паставілі балвана-партызана ! . . . —

На экране сэкундная стрэчка рытмічна збліжаецца да цыфры 12 — і зраўнавалася!

— З Новым Годам!

— З новым шчасьцем! Абыймемся — пацалуемся!

Мы ўступілі ў 1971-шы Год. Падыймаем тосты за гаспадароў, за жанчын, за нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне.

У гэтым часе на вуліцах пачынаецца пякельны галас: дзесяткі машын гойсаюць ува ўсе канцы з прывязанымі доўгімі вяроўкамі, да якіх прычэплены розныя бляшанкі. Падыймаецца такі бразгат, што й вытрываць нельга! З такім «канцэртам» аўстралійцы спатыкаюць Новы Год. Гэта адзіная ноч у працягу году, калі паліцыя не мяшае падыймаць шум, трэск і гармідар.

А мы пачалі: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі ! . . .» I выпілі за тое, што ўжо мы ўсе ад 12-ай гадзіны на цэлы год пастарэлі . . .

Вокны і дзьверы ўсе насьцеж, бо духата як у лазьні: сядзім толькі ў падкашульках. Пачынае сьвітаць. На ўсходзе зелянаватым крышталікам загарэўся паўдзённы цудоўны крыж — зоркі на Беларусі няведамыя. Госьці разьяжджаюцца.

Дзякуем. А гаспадары прыпамінаюць: «Толькі другі раз не пазьніцеся!»

К. Чабатар

Аўстралія, Студзень 1971.

---

# Прыказкі і прымаўкі

(БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛЁР, ХРЫСТАМАТЫЯ)

ПРЫКАЗКІ І ПРЫСЛОЎІ

Будучае пачынаецца сёньня.

Добра вяроўка доўгая, а прамова кароткая.

Добры чалавек, параіўшы, не шкадуе.

За агульным сталом яда смачней.

Калі праца — асалода, жыцьцё — хараство.

Калі ты мудры — перамажы мяне доказам.

Лета працуе на зіму, а зіма — на лета.

Ненадзейны друг страшней ядавітага ворага.

Не саромся пытаць — болей спытаеш, болей спазнаеш.

Не таму слава, хто на язык лёгкі, а таму, хто ў праве стойкі.

Ня той наперадзе, што абагнаў, а той, хто за сабой цягне.

Не хваліся плян складаючы, пахваліся год канчаючы.

Нагаварыў на мяшок, а справы — на вяршок.

Ня той друг, што мёдам мажа, а той, што праўду кажа.

Парады патрэбны і мудраму.

Той патрыёт, хто змагаецца за народ.

Мокра ў маі — будуць пышныя караваі.

На кульгавым кані далёка не заедзеш.

Не забягай з самахвальствам упярод — паслухай, што скажа народ.

Не ўсякаму слову вер, лепш на справе правер.

У полі працу паважай — багаты вырасьце ўраджай.

Хто любіць працаваць, той ня будзе доўга спаць.

Хто старанна працуе, той мір мацуе.

Адукацыяй ня кічысь, а ў народа вучысь.

Бачыць вока далёка, а розум — яшчэ далей.

Чым больш навукі, тым разумней рукі.

Хто языком штурмуе — ня шмат наваюе.

Навука хлеба ня просіць, а хлеб дае.

# ЖАРТЫ

ПА ДАКУМАНТАХ...

*Міхаліха:* — Ці гэта праўда, міленькая, што Анупрэіха казала, якобы ты паспрачалася з ксяндзом за гады? Ён табе даваў 53, а ты стаяла за 39... —

*Пятручыха:* — Ня вер, рыбачка, плёткі! Ведама, ксёндз малады, непрактычны; але я не папусьціласяа, бо мне сам дзекан, колькі ён у нас бываў па калядзе, дык ніколі мне больш 39-ці не запісваў. Дык, значыць, я трымаюся дакумантаў... —

*Міхаліха:* — Ага, ну так! А то яны плятуць ліха ведае што... —

«РАЗУМНАЯ» АНЮТКА:

Мамы ня было дома, Анютка знайшла кусок хлеба, узяла кубак, пабегла ў хлеў і кажа: — Бысь-бысь, дай малака! —

Бычок засьмяяўся: — Гм, прасі ў Рагулі! —

Анютка да Рагулі: — Рагулька, дай малачка! —

Рагулька кажа: — Я даю толькі маме, а мама дае табе... —

Анютка кажа: — Дурная карова, давай, а то дам розгай! —

Рагуля ёй: — Мне Бог так казаў... —

Анютка: — Пайду — папытаюся Бога!... —

Пайшла дамоў і прад абразом пачала Богу тлумачыць аб усім здарэньні. А Бог сказаў: — А вунь мама йдзе!... —

Тады ўсё ўжо ўладзілася і Анютка пра ўсё забылася — аж на старасьць прыпомніла і мне расказала.

В. Адважны.

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

К-а П: $ 5.00, К-ль Ч. — £ 2,4,9, К-ч М. $ 3.00, Л-к Б. — Канада — $ 14.00. М-ая А. $ 5.00. Др. М. Я. £ 4-65. М-ч А. $ 5.00. М-ч А. £ 4,3,4. М-ч П. $ 7.00. М-о А. Лёндан £ 1,0,0. П-о £ 2,0,0. П-к Я. $ 10.00. П-к £ 2,10,0. П-П. £ 1.00. Р-а $ 5.00. Сп.-ня Р. $ 5.00. Р. Т. Сп.-ня £ 1.00. С-к 3,15. С-а £ 1.0,0. С-о Ул. £ 2,0,0. С-к $ 5.00. С-ч Я. £ 5,0,0. С. Г. £ 10.00. С-ч В. £ 2,0,0. С-ч З. £ 1. С-ко £ 1,0,0. С-й М. $ 2,10. С-е В. $ 5.00. С-к М. £ 1-35. С-а В. $ 5.00. С. А. $ 5.00. Ш-ць А. $ 5.00. Ш-т Т. $ 3.00. Ш-ая 5.00 фр. Тр-у £ 3,14,0. Тр-у $ 3.00. В. В. $ 10.00. В-і Ю. £ 1,0,0. В-й Ц. £ 1,8,0. З-ч £ 3,0,0. З-к Я. $ 5.00. Ж. Н. $ 10.00. — Дзякуем!

ЗЬМЕСТ


Вялікдзень — «Хрыстос Уваскрос!» (Верш) . . . . . . . 1
Уладзімер Глыбінны: На Сьвятой Зямлі (Працяг) . . . , . 2
«Малітвы пры Сьвятой Літургіі» 1695 г. (Заканчэньне) . . . 5
Др. Тамаш Падзява: Жанчыны — настаўнікамі Царквы (Заканч.) 7
Апостальскаму Нунцыю ў Варшаве — Pro Memoria . . . . 9
Др. Т. Падзява: Беларускае багацьце. Культурныя ўплывы Ўсходу і Захаду на Беларусі . . . . . . . . . . 10
З царкоўнага жыцьця . . . . . . . . . . 14
З беларускага жыцьця . . . . . . . . . 17
З лістоў у рэдакцыю . . . . . . . . . 18
Ноч Старога 1970 і пад новы 1971 Год . . . . . . . 20
Прыказкі і прымаўкі — Беларускі фальклёр . . . . . 21
Жарты . . . . . . . . . . . . . 22
Паштовая скрынка . . . . . . . . . . . 22


Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14